*Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі*

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 9 (4809) 6 сакавіка 2015 г.

## Пункціράм

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы з 75-годдзем з дня заснавання. «За сваю гісторыю ваша ВНУ прайшла шлях ад настаўніцкага інстытута да класічнага ўніверсітэта. Тут атрымалі пуцёўку ў жыццё больш як 80 тысяч высокакваліфікаваных спецыялістаў, якія плённа працуюць у многіх сферах эканомікі нашай краіны», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народную артыстку Беларусі Вольгу Дзянісаву з юбілеем. «Ваша творчая дзейнасць і вернасць Нацыянальнаму акадэмічнаму драматычнаму тэатру імя Максіма Горкага з'яўляюцца ўзорам самаахвярнага служэння тэатральнаму мастацтву і адданасці выбранай прафесіі. Сыграныя вамі ролі ў спектаклях па творах беларускай, рускай і замежнай класікі, а таксама п'есах сучасных драматургаў па праве ўваходзяць у залаты фонд культуры Беларусі», — адзначана ў віншаванні.

✔ Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у краіне ў мэтах захавання і развіцця традыцый у сферы масавай інфармацыі, заахвочвання работнікаў арганізацый гэтай галіны заснаваны нагрудны знак Міністэрства інфармацыі «Выдатнік тэлебачання і радыё».

✔ Першая Нацыянальная літаратурная прэмія будзе ўручана падчас святкавання Дня беларускага пісьменства ў Шчучыне 6 верасня. Рашэнне аб яе заснаванні прынята на пасяджэнні нацыянальнага аргкамітэта па правядзенні свята. Паводле міністра інфармацыі Беларусі Ліліі Ананіч, нацыянальная прэмія павінна кансалідаваць літаратурную супольнасць.

✔ Цікавасць чытачоў да творчасці айчынных аўтараў расце, адзначыў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец падчас пасяджэння нацыянальнага аргкамітэта па правядзенні XXII Дня беларускага пісьменства. Пра гэта сведчаць вынікі даследавання, праведзенага СПБ. Члены грамадскага аб'яднання плануюць актыўна ўдзельнічаць у падрыхтоўцы свята. Творцы перададуць у дар Шчучыну больш як сотню кніг.

✔ XI Фестываль нацыянальных культур у Гродне можа змяніць час і фармат правядзення. Паводле дырэктара Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Міхаіла Рыбакова, ёсць прапанова перанесці мерапрыемства з пачатку лета на раннюю восень, паколькі падчас сезона масавых адпачынкаў многія ўнікальныя калектывы не змогуць паўдзельнічаць у фэсце ў поўным складзе.

✔ Амаль 600 юных талентаў з Беларусі і краін блізкага ды далёкага замежжа возьмуць удзел у XV Міжнародным фестывалі «Залатая пчолка» ў Клімавічах. Удзельнікі фэсту — дзіцячыя калектывы і індывідуальныя выканаўцы ад 9 да 16 гадоў.





*Фота Кастуся Дробава*

*Падчас адкрыцця выстаўкі «Вынаходніцтвы да Вінчы» ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі наведвальніца каля карціны «Мадонна з гваздзікам».*

# Патэнт на хараство

**Нацыянальны мастацкі музей запрашае сваіх наведвальнікаў на спатканне з адной з самых загадкавых жанчын эпохі Адраджэння — «Монай Лізай» Леанарда да Вінчы.**

### НЕ АРЫГІНАЛ, АЛЕ...

Рэпрадукцыя самага вядомага шэдэўра сусветнай культуры — частка шырокай міжнароднай выстаўкі, прысвечанай творчасці Леанарда да Вінчы. У фармаце 3D гледачы змогуць убачыць і такія шэдэўры, як «Тайная вячэра», «Вітрувіянскі чалавек», а таксама адзіную скульптуру мастака — «Конь Сфорца», больш вядомую як «Конь Леанарда».

Вялікую частку сваіх работ да Вінчы стварыў у Фларэнцыі і Мілане ў перыяд з 1473 па 1513 гг. Аднак шматлікія яго творы былі страчаны. Леанарда напісаў больш як 25 карцін, некаторыя з якіх захаваліся ў выглядзе копій. Каля шасці тысяч старонак запісаў і малюнкаў дайшло да нашых дзён у выглядзе запісных кніжак і разрозненых фрагментаў. Тым не менш вучоныя лічаць, што гэта малая частка спадчыны генія.

Карціны, якія дэманструюцца на выстаўцы, — поўнамаштабныя лічбавыя рэпрадукцыі, на якіх адноўлена тэхніка жывапісу фларэнтыйскімі алейнымі фарбамі. Арыгіналы да Вінчы бясцэнныя і не пакідаюць сваіх музеяў. Напрыклад, «Вітрувіянскі чалавек» з-за крохкасці матэрыялу нават не можа быць выстаўлены для шырокай публікі.

### ІНЖЫНЕРЫЯ

Для Леанарда да Вінчы мастацтва не існавала па-за навукай. Ён верыў, што тайны светабудовы можна разгадаць толькі дзякуючы ўважлівым назіранням, а любая тэорыя абавязкова мусіць падмацоўвацца эксперыментам. Таму адзіная ў свеце перасоўная выстаўка «Вынаходніцтвы да Вінчы», створаная аўстралійскай кампаніяй «Грандэ Эксібішнс» сумесна з музеем Leonardo da Vinci Museo ў Італіі, — у першую чаргу ўвасабленне геніяльнасці Леанарда як вынаходніка, вучонага і інжынера. Экспазіцыя налічвае 200 экспанатаў і ўжо аб'ехала паўсвету.

Усе работы створаны італьянскімі майстрамі дакладна ў адпаведнасці з нататкамі да Вінчы. Пры гэтым выкарыстоўваліся тэхніка і матэрыялы эпохі Адраджэння. Спецыялістамі былі расшыфраваныя коды майстра, наўмысныя памылкі і люстраны спосаб пісьма.

Так, у экспазіцыі прадстаўлены праект Леанарда «Ідэальны горад». У 1484 годзе старыя, вузкія і мнагалюдныя вулкі шматлікіх італьянскіх гарадоў спрыялі хуткаму распаўсюджванню чумы. Пасля эпідэміі архітэктары задумаліся над удасканальваннем гарадскога асяроддзя. Ідэя да Вінчы заключалася ў стварэнні шматузроўневага горада з дамамі над вадой. Шырокія вуліцы былі задуманы перпендыкулярна адна адной, будынкі мелі некалькі функцыянальных узроўняў, а каналы забяспечвалі сувязь горада з морам. Некаторыя са спраектаваных творцам будынкаў з арачнымі каланадамі паўтараюць традыцыйныя формы класічнай архітэктуры.

Чытайце на стар. 16 ▶

## Фоташтрых



Фота Кастуся Дробава

Да Міжнароднага дня роднай мовы Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы традыцыйна праводзіць свята «У дыялогу культур», у якім бяруць удзел прадстаўнікі пасольстваў розных краін у Рэспубліцы Беларусь. Сёлета адным з удзельнікаў стаў міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Макей. Падчас імпрэзы ён прачытаў санет Янкі Купалы «Бацькаўшчына», азнаёміўся з навоўвядзеннямі ў экспазіцыі музея. Дырэктар музея Алена Ляшковіч выказала спадзеў, што міністр стане добрым сябрам музея. Уладзімір Уладзіміравіч, у сваю чаргу, зазначыў, што ў наступным годзе мерапрыемства будзе праведзена сумесна з Міністэрствам замежных спраў.

# Паядналыя лёсам

**Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа прадстаўляе новы праект «Якуб Колас і паэты Сярэбранага веку».**

Цягам года ў доме песняра будуць гучаць вершы М. Гумілёва, Г. Ахматавай, М. Цвятаевай, С. Ясеніна, У. Маякоўскага ды іншых класікаў гэтага перыяду.

Праект распачаўся літаратурна-музычнай вечарынай «Пра доблесці, пра подзвігі, пра славу…», прысвечанай Аляксандру Блоку. Паэта рускага сімвалізму і Якуба Коласа аб'ядноўвае Брэсцкае Палессе — мясціны, дзе падчас Першай сусветнай вайны па волі лёсу апынуўся А. Блок. Амаль 200 дзён паэт правеў на фронце. На Палессі ў свой час настаўнічаў Якуб Колас. Гэтыя мясціны ўзгадваліся ў творчасці абодвух паэтаў.

Рэй вёў рэжысёр Беларускага радыё, артыст Алег Вінярскі. Госцяй імпрэзы стала дырэктар Музея-кватэры А. Блока ў Санкт-Пецярбургу Лідзія Пушкарова, якая распавяла пра гады, праведзеныя паэтам у Беларусі. Прысутныя таксама даведаліся пра сяброўства класікаў з паэтам, перакладчыкам і крытыкам Сяргеем Гарадзецкім.

Дом песняра і музей Аляксандра Блока яднаюць сяброўскія сувязі. У дзень імпрэзы было падпісана пагадненне аб доўгатэрміновым творчым супрацоўніцтве паміж установамі. Калегі дамовіліся, што будуць абменьвацца выстаўкамі, ладзіць сумесныя праекты.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Не ў розум — у пачуцці з галавою!

**27 лютага ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча адбылася прэзентацыя аўдыяспектакля па п'есе класіка польскай літаратуры Аляксандра Фрэдры «Дзявочыя зарокі, або Магнетызм сэрца».**

Аўдыёспектакль — першая пастаноўка твора на беларускай мове. У спектаклі заняты зорны склад творцаў: Генадзь Аўсяннікаў, Ільля Курган, Тамара Нікалаева-Апіёк, Ігар Пятроў і інш. Пераклала п'есу на беларускую мову Марыя Мартысевіч.

Музыку для спектакля запісала група «Вытокі» пад кіраўніцтвам лаўрэата міжнародных конкурсаў Аляксея Фралова. Кампазітар адзначыў, што беларусізацыя Фрэдры вельмі сімвалічная. Калісьці польскі класік спрабаваў працаваць са Станіславам Манюшкам, аднак іх супрацоўніцтва не склалася. Дзякуючы групе «Вытокі» і артыстам купалаўскага тэатра вершы Фрэдры і музыка Манюшкі паядналіся. Ігар Пятроў адзначыў, што атрымалася здзейсніць мару: спалучыць музыку, слова і кампазіцыю.

Класік польскай літаратуры граф Аляксандр Фрэдра (1793 — 1876) — асоба каларытная і неардынарная. Камедыёграф, паэт і мемуарыст, аўтар камедый пра побыт шляхты, у асноўным правінцыяльнай. Яго камедыі адыгралі значную ролю ў развіцці рэалістычнага тэатра і склалі залаты фонд польскай літаратуры. Яго байкі ў Польшчы ўключаны ў праграму дзіцячага чытання.

**Таццяна САВІЧ**

# Шлях да «Зорнага кошыка»

Такую назву атрымала сустрэча ў беларускамоўнай гімназіі № 2 г. Барысава, на якую завітала член Саюза пісьменнікаў Беларусі, кіраўнік барысаўскага літаратурнага аб'яднання «Натхненне» Лёля Багдановіч.

Мерапрыемства адбылося на базе вучэбна-метадычнага цэнтра беларускай культуры. З першых радкоў трапяткога верша «Прагану тваю хваробу», прысвечанага маці, Лёля Багдановіч авалодала ўвагай вучняў. Паэтэса пазнаёміла прысутных з першым паэтычным зборнікам «Зорны кошык», з публікацыямі ў рэспубліканскім і мясцовым друку.

Цікава было даведацца школьнікам і пра калектыўныя выданні членаў літаратурнага аб'яднання «Натхненне»: «Прыстанак душы», «Званы памяці», «І зоркі над Бярэзінай-ракой…», «З усмешкай і ўсур'ёз». Да 70-годдзя Перамогі чакаецца выхад новага зборніка вершаў «Помнім герояў сваіх» аўтараў «Натхнення».

**Таццяна МАСЛЮКОВА**

## Стасункі

# Кніжны мост

**Беларуска-кітайскі форум выдаўцоў і пісьменнікаў прайшоў у межах XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.**

Арганізатарамі форуму выступілі Галоўнае дзяржаўнае ўпраўленне КНР па справах друку, выдавецтваў, радыёвяшчання, кінематаграфіі і тэлебачання (ГУПРКТ) і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

З прывітальнымі словамі выступілі Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол КНР у Беларусі Цуй Цымін.

— У гэтыя «кніжныя» дні ў нашай краіне адбываюцца сапраўды лёсавызначальныя падзеі, — зазначыла Лілія Станіславаўна. — Слова мусіць ствараць, лекаваць, развіваць і вучыць дабрыні, заклікаць да міру, і я ўпэўненая, што дэлегацыя Кітайскай Народнай Рэспублікі прыбыла да нас менавіта з такой высокай місіяй. Вельмі хацелася б, каб форум, які ў такім маштабе праходзіць у Беларусі ўпершыню, знайшоў новыя грані супрацоўніцтва і каб прафесійныя стасункі выліваліся ў новыя творчыя праекты.

Спадар Цуй Цымін пагадзіўся, што гэты дзень можна лічыць гістарычным у развіцці стасункаў Кітая і Беларусі.

— Кітай упершыню выступае ганаровым госцем на Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы. Для нас гэта вялікая радасць. Кітай і Беларусь — добрыя сябры і партнёры, якія давяраюць адно аднаму. Гэтае сяброўства распачалося 23 гады таму, з моманту ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж нашымі краінамі. Геаграфічна мы аддаленыя, але кнігі і літаратура — самы моцны, трывалы мост.

Пра выдавецкую дзейнасць КНР распавялі намеснік старшыні ГУПРКТ і Дзяржаўнага ўпраўлення па справах аўтарскага права спадар Янь Сяахун, намеснік генеральнага дырэктара Кітайскай выдавецкай карпарацыі спадар Сунь Юэму, намеснік дырэктара АТ Цзянсускай кампаніі выдання і медыя «Фенікс» спадар Шэ Цзянтаа. Так, спадар Сунь Юэму зазначыў, што Кітайская выдавецкая карпарацыя за апошнія тры гады выйшла на першае месца па атрыманні дзяржаўных прэмій і рэалізацыі медыяпрадукцыі. Цягам шасці апошніх гадоў карпарацыя ўваходзіць у лік 60 найбольш моцных культурных прадпрыемстваў Кітая і ў топ-50 выдавецтваў Кітая. Карпарацыі падначалена 96 прадпрыемстваў, за мяжой знаходзіцца 28 яе прадстаўніцтваў, якія распаўсюджваюць выданні ў 130 краінах і рэгіёнах свету.

Таксама мела слова першы намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь Алена Даўгаполава, ад імя пісьменнікаў выступілі А Лай і старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, а дырэктар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч пазнаёміў удзельнікаў форуму з гісторыяй беларуска-кітайскіх літаратурных стасункаў.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# Слова Паднябеснай

**Мемарыяльную залу сталічнага Дома літаратара наведалі пісьменнікі з Кітая: Сі Чуань, А Лай, Сю Цзэчэнь і Лаа Ма. Творцы абмяркоўвалі дзейнасць айчыннай і кітайскай пісьменніцкіх арганізацый.**

Гэтая сустрэча сталася працягам беларуска-кітайскіх стасункаў у межах XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. На сустрэчу з кітайскімі літаратарамі завіталі прадстаўнікі Саюза пісьменнікаў Беларусі: першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў, старшыня Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду Мікалай Коваль, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяна Анцух, а таксама Іван Саверчанка, Алесь Савіцкі, Ніна Чайка, Мікола Мятліцкі, Ігар Лапцёнак, Анастасія Кузьмічова, Яна Явіч, Валерый Чудаў, Андрэй Скарынкін і старшыня Санкт-Пецярбургскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі Андрэй Антонаў. Прысутнічалі тут і студэнты БДУ, якія прафесійна вывучаюць кітайскую мову.

Старшыня СПБ Мікалай Чаргінец распавёў кітайскім гасцям пра работу Мінскага гарадскога і абласных аддзяленняў рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі, а таксама пра дзейнасць секцый СПБ. Спадар Лаа Ма выказаў падзяку кіраўніцтву СПБ за арганізацыю гэтай сустрэчы, якая прадаставіла кітайскім пісьменнікам унікальную магчымасць пазнаёміцца ды пагутарыць з беларускімі творцамі. Паводле яго меркавання, літаратура — гэта мастацтва, цесна звязанае з мовай: у працэсе стасункаў пісьменнікі з розных краін могуць разумець адзін аднаго не толькі з дапамогай перакладчыка, але і па жэстах, эмоцыях. Ён падкрэсліў, што пісьменніцкая арганізацыя КНР налічвае некалькі соцень тысяч творцаў, і прадставіў прысутным сваіх калег па пяры.

Спадар А Лай — старшыня Саюза пісьменнікаў правінцыі Сычуань, членамі якога з'яўляюцца каля трох тысяч чалавек. Спадар Сі Чуань — адзін з найбольш вядомых паэтаў Паднябеснай, прафесар. Чытаў лекцыі ва ўніверсітэтах ЗША, Канады, Германіі. Перастварае па-кітайску творы пісьменнікаў іншых краін. Напісанае А Лаем і Сі Чуанем перакладзена на многія мовы свету, апавяданні Лаа Ма, кіраўніка Народнага ўніверсітэта Кітая, — і на рускую мову. Сю Цзэчэнь — малады, але даволі вядомы празаік і каліграф.

Падчас сустрэчы Мікалай Чаргінец засяродзіў увагу прысутных на падпісанай у дзень адкрыцця XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу дамове аб супрацоўніцтве паміж Галоўным дзяржаўным упраўленнем па справах прэсы, выдавецтваў, радыёвяшчання, кінематаграфіі і тэлебачання Кітайскай Народнай Рэспублікі і Міністэрствам інфармацыі Беларусі аб перакладзе і выданні класічных літаратурных твораў абедзвюх краін у 2015 — 2020 гг.

Акрамя таго, абмяркоўваліся пытанні маральнай і матэрыяльнай падтрымкі таленавітай моладзі, фінансавання кніг маладых аўтараў, прысутнасці беларускіх і кітайскіх творцаў у інтэрнэт-прасторы і г. д.

**Арына КРАЙКО**

*За падзеяй*

# ...каб сябе знайсці

**Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры адзначыў дзень нараджэння Рыгора Барадуліна адкрыццём выстаўкі «Рыгор Барадулін. Прыходзім, каб знайсці сябе ў жыцці…».**

Выстаўка размешчаная ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. Яе аўтар, Вольга Гулева, шмат папрацавала з роднымі Рыгора Барадуліна, каб экспазіцыя атрымалася цікавай і змястоўнай, раскрыла жыццё і асобу паэта з розных бакоў. Так, выстаўка вылучае тры асноўныя тэмы, якія вызначыў сам Рыгор Барадулін: «Лёс мой пазначылі Бог, мама, Васіль» — гэта роздум пра жыццё і смерць, Бога і прызначэнне ў жыцці; неацэнная роля мамы ў яго творчасці, роля сям'і; вялікае сяброўства з Васілём Быкавым, якое доўжылася больш як 40 гадоў. У экспазіцыі прадстаўлены рэчы з фондаў музея (фотаздымкі, рукапісы, лісты, кнігі), якія перадаў сам Рыгор Іванавіч, і рэчы, перададзеныя жонкай паэта Валянцінай Міхайлаўнай. Усе матэрыялы выстаўляюцца ўпершыню.

На пачатку адкрыцця выстаўкі госці пачулі самога Рыгора Іванавіча — прысвечаны Міколу Прашковічу верш «На Беларусі…», які паэт зачытваў двойчы: у 1968 годзе для Сяргея Панізніка і ў 2009-м — для праекта «Галасы» Сяргея Панізніка і Глеба Лабадзенкі.

— Душа шчыміць, калі ідзеш на такую сустрэчу з сябрам, аднагодкам, пабрацімам па паэзіі: ні абняць, ні перамовіцца — толькі паглядзець на яго аблічча, — кажа Васіль Зуёнак. — Колькі ён пакінуў нам са сваёй паэзіяй — і колькі так і засталося з ім!.. Рыгор Барадулін быў вялікі вандроўнік і вялікі жартаўнік — усё гэта можна ўбачыць на выстаўцы.

Кастусь Цвірка быў знаёмы з Рыгорам Барадуліным амаль 60 гадоў і прыгадаў, як студэнтамі яны часта бегалі ў «Чырвоную змену», дзе апантана абмяркоўвалі вершы. У той час, будучы яшчэ не зусім пэўным у сваіх паэтычных знаходках, Барадулін падпісваўся «Алесь Чабор». Разам з ім Кастусь Аляксеевіч ездзіў на збор ураджаю ў Кустанайскую вобласць — вынікам гэтай паездкі сталася першая кніга паэта «Маладзік над стэпам» (1959).

— Тут шмат успаміналі Рыгора. І было б вельмі добра сабраць гэтыя ўспаміны і зрабіць харошы том памяці Рыгора Барадуліна, — прапанаваў на заканчэнне Кастусь Цвірка.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Пісаць для дзяцей адказна

Урачыстае ўручэнне вясёлкаўскай прэміі імя Васіля Віткі за 2014 год адбылося ў Нацыянальным мастацкім музеі. Сёлета яна прысуджана пісьменнікам Васілю Зуёнку — за вершы «Ёсць у нас краіна Мяў», «Пад кустом», «Кот адпраўся ў палёт» (№ 10); Алесю Бадаку — за казку «Акварэлькі» (№ 10); Уладзіміру Шулякоўскаму — за матэрыялы «Мастак з-пад шапкі-няўгледкі» (№ 1), «Роднае мястэчка» (№ 9, рубрыка «Наша спадчына»).

Юныя аўтары ўжо сёмы раз адзначаюцца імяннай прэміяй Уладзіміра Ліпскага, галоўнага рэдактара часопіса «Вясёлка», за лепшы твор. Гэтым разам яе атрымалі вучаніца гімназіі г. Светлагорска Яніна Шавяленка — за верш «Беларусачка»; вучань сталічнай гімназіі № 1 Дзяніс Буторын — за апавяданне «Тады ішла вайна…» і вучаніца сталічнай гімназіі № 39 Арына Карачун — за верш «Радзіма».

Як адзначыў дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў, спачатку было Слова, і выдатна, што дзеці чуюць яго, сустракаюцца з пісьменнікамі, пішуць па-беларуску, чытаюць «Вясёлку»: калі будзе жыць беларускае слова — у народа ёсць будучыня.

Лаўрэат прэміі і медаля Васіля Віткі, член рэдкалегіі часопіса «Вясёлка», пісьменнік Алесь Бадак заўсёды падкрэслівае, што дзіцячая літаратура ў Беларусі развіваецца. На сваіх старонках часопіс прапаноўвае сучасныя аўтарскія казкі, апавяданні і вершы. Гэта пляцоўка для маладых аўтараў і класікаў дзіцячай літаратуры.

Прэмія імя Васіля Віткі — гэта прызнанне паспяховай працы ў галіне беларускай дзіцячай літаратуры. «Тварыць для дзяцей — надзвычай адказная справа, але вельмі ўдзячная, асабліва калі ведаеш, што твой верш ці казка адразу ж знойдзе чытача. Мне прыемна атрымаць прэмію імя Васіля Віткі, бо з ім мы працавалі ў адным будынку, сустракаліся штодзень, абмяркоўвалі творчыя задумы… — прызнаўся падчас уручэння прэміі паэт Васіль Зуёнак.

— Карыфеі беларускай дзіцячай літаратуры стварылі часопіс «Вясёлка», — адзначыў У. Ліпскі. — Навучыць дзяцей любіць і ведаць гісторыю сваёй зямлі, фальклор, паважаць тых, хто побач, — гэтыя задачы былі пастаўлены перад «Вясёлкай», і яны актуальныя па сёння. На старонках часопіса публікуюцца лепшыя творы айчынных аўтараў, і таму кожны нумар атрымліваецца арыгінальным.

**Маргарыта ПРОХАР**

# Таямніцы ды рамантыка

Сустрэча з пісьменніцай Людмілай Рублеўскай прайшла ў дзіцячай бібліятэцы № 6 імя Васіля Віткі г. Мінска.

Госця распавяла пра лёсы беларускіх літаратараў, якія некалі жылі непадалёк ад бібліятэкі. Уразіла тым, што па колькасці таямнічых гісторый з прывідамі Беларусь можна смела параўноўваць з Шатландыяй ці Ірландыяй. Не абмінула і постаць Пальміры Мрачкоўскай — рэальнага чалавека, прывід якога трапляецца чытачам на старонках адной з яе кніг.

«У часы спажывецкага грамадства жыць надта сумна, рамантыкам быць нашмат весялей, бо ў рэшце рэшт матэрыяльнае заканчваецца, а духоўнае — не», — падсумавала літаратарка.

**Кацярына БУЗОЎКІНА**

# Празаік-лірык

Падчас сустрэчы з вучнямі і настаўнікамі сталічнай СШ № 43 Анатоль Зэкаў, як гэта ўжо стала заканамернасцю на падобных імпрэзах, паўстаў ва ўсёй тэматычнай і жанравай пісьменніцкай шматграннасці. Як бы гартаючы старонкі сваіх кніг самага рознага кшталту, паэт чытаў лірычныя вершы, апавядаў цікавыя былі, весяліў аўдыторыю іранічнымі мініяцюрамі і літаратурнымі пародыямі. Нічога не ўтойваючы, ён прачыняў чытачам сваю творчую лабараторыю, прыгадваў гісторыю напісання асобных вершаваных і празаічных твораў, дзяліўся ўспамінамі пра сяброў-пісьменнікаў, выказваў уласную пазіцыю па самых розных праблемах сучаснага літаратурнага працэсу і грамадскага жыцця.

А на пачатку сустрэчы падарункам госцю сталі натхнёна прачытаныя старшакласнікамі яго вершы пра вайну з кнігі «Параненая памяць».

**Наталля САКАЛЯНСКАЯ**

*Конкурсы*

# Паэзія на малюнках

Літаратурны музей Максіма Багдановіча запрашае наведаць выстаўку «Адлюстраванні». У экспазіцыі — лепшыя мастацкія работы міжнароднага конкурсу дзіцячых малюнкаў, што праводзіўся сумесна з Мемарыяльным домам-музеем Максіма Багдановіча ў Яраслаўлі.

Удзел у конкурсе ўзялі маленькія творцы Беларусі і Расіі. На малюнках — чароўны свет паэзіі класіка — край лясоў, балот ды азёр з дзіўнымі істотамі: русалкамі, вядзяніком, лесуном і зміяным царом.

У дзень адкрыцця выстаўкі ў музеі адбылася імпрэза «Усе мы разам ляцім да зор», прымеркаваная да 100-годдзя напісання Максімам Багдановічам верша «Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы» — аднаго з самых яскравых у позняй лірыцы паэта. Прайшла цырымонія ўзнагароджання ўдзельнікаў конкурсу. Завяршылася імпрэза музыкай: песні на словы класіка выканалі Антаніна Вярцінская і Міхась Бараноўскі.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# І вершы, і загадкі

**Незвычайныя заняткі прайшлі ў сталічнай сярэдняй школе № 77: да вучняў пачатковых класаў завіталі пісьменнікі Уладзімір Мазго і Генадзь Аўласенка.**

Гасцей юным слухачам прадставіла паэтэса, галоўны спецыяліст Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Іна Фралова. Генадзь Аўласенка — супрацоўнік часопіса «Бярозка», а Уладзімір Мазго — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Нёман». Абодва плённа працуюць на ніве літаратуры, і не толькі дзіцячай.

На пачатку творчага ўрока дэманстраваўся відэакліп песні кампазітара Уладзіміра Сарокіна «Чараўніца-ёлка» на словы Уладзіміра Мазго ў выкананні спявачкі Алесі. За плячыма Уладзіміра Мінавіча — вялікі досвед: ён рэдактар больш як 200 кніг! Пяру творцы належыць мноства зборнікаў паэзіі для дзяцей і дарослых: «Пад спеў крыніц», «Марафон», «Калі спрачаюцца маланкі», «Суседзі па сусвеце», «Смехапад» і г. д.

У. Мазго прачытаў слухачам жартоўныя вершы «Жыў у сажалцы карась», «Камп'ютарны вірус», «Ці ёсць у Слоніме сланы?». А яшчэ задаваў вучням пытанні, прапаноўваў разгадаць анаграмы, прамаўляў скарагаворкі.

Генадзь Аўласенка — паэт, празаік, перакладчык. І… педагог: чвэрць стагоддзя настаўнічаў у школе — выкладаў хімію і біялогію. Ён прадставіў рускамоўныя пераклады паэтычных твораў Уладзіміра Мазго, прачытаў некалькі ўласных вершаў. Распавёў Генадзь Пятровіч і пра часопіс «Бярозка».

**Яна ЯВІЧ**

# Звыклае. Інакш

**Творчыя асобы здольныя ўбачыць адметнае ў самых звычайных рэчах. Пераканацца ў гэтым запрашае персанальная выстаўка Аляксандры Бернштэйн «Альбомы», якая адкрылася ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.**

Прадстаўлена больш як 150 фотаздымкаў, знятых на стужку. Яны групуюцца ў асобныя тэматычныя альбомы, ствараюць прастаравыя інсталяцыі. На фотаздымках, выкананых у аматарскай манеры, — фрагменты штодзённага жыцця, якія набываюць эстэтычную каштоўнасць праз позірк фатографа.

Аляксандра — асоба разнабаковая. Акрамя фатаграфіі, займаецца жывапісам і керамікай. Нарадзілася ў Мінску, адукацыю атрымала ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, а таксама ў Літве (аддзяленне дызайну і візуальнай культуры). На рахунку творцы — некалькі выставак. Яе фатаграфічны праект пра Мінск быў апублікаваны на інтэрнэт-партале *citydog.by*.

«Фатограф — гэта пасрэднік, праз якога рэальнае становіцца творам», — зазначае Аляксандра. Падыход аўтара ў рабоце з фатаграфічным матэрыялам адрозніваецца ад сучасных тэндэнцый. Экспазіцыя запрашае па-іншаму зірнуць на паўсядзённасць, убачыць незвычайнае ў звыклым.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**10 сакавіка** — на свята дзіцячай кнігі ў СШ № 87 (вул. Шчарбакова, 23). Ганаровы госць — старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. Пачатак а 13-й гадзіне.

**11 сакавіка** — у літаратурны клуб «Пад белымі крыламі» пры гімназіі-каледжы імя І. В. Ахрэмчыка (вул. Макаёнка, 14) на творчую сустрэчу з групай маладых пісьменнікаў. Пачатак у 14:30.

**11 сакавіка** — на творчую сустрэчу з пісьменнікам Міхасём Пазняковым, якая пройдзе ў Цэнтральнай барысаўскай раённай бібліятэцы (вул. Чапаева, 3). Пачатак а 13-й гадзіне.

**12 сакавіка** — на пасяджэнне студыі мастацкага чытання «Вобраз» пры СШ № 23 (кіраўнік — пісьменніца Наталія Касцючэнка). Пачатак а 13-й гадзіне.

**13 сакавіка** — на выстаўку-прэзентацыю праваслаўнай кнігі, у межах якой адбудуцца выступленні пісьменнікаў. Мерапрыемства пройдзе ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі (пр-т Незалежнасці, 116). Пачатак а 17-й гадзіне.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ выказваюць глыбокія спачуванні члену Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаю Паўлавічу ХОБАТАВУ з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ.

# Будзем знаёмыя!

Не часта здараецца такое, каб, чытаючы вершы невядомага табе чалавека, ты не змог стрымаць слязы. Да глыбіні душы кранулі мяне ціхія, шчырыя, спавядальныя вершы Ірыны Дубашынскай, бо за імі адчулася сама яе душа (не «адбітак душы», як любяць пісаць крытыкі), душа трапяткая, па-жаноцку далікатная, болеадчувальная.

У паэзіі кранае найбольш не праспяванае, а сплаканае. Нешта падобнае адчулася і ў вершы «Пані Ірэна». Чытаючы яго кранальныя радкі, я згадаў імя бацькі аўтаркі — славутага нашага народнага артыста Паўла Дубашынскага, незабыўнага Паўла Піліпавіча, Пашы. Калісьці мы з ім так хораша сябравалі! Вершы дачкі змусілі згадаць многае з таго, што пачало прыціхаць у памяці. А якія гэта былі цікавыя сустрэчы, гамонкі, згадкі і жарты! На кожную сустрэчу Павел з'яўляўся з новымі анекдотамі. Прыдумваў іх сам, як я здагадваўся. Ніякі найцікавейшы спектакль не заменіць мне сёння тых сустрэч.

І ў шчырых, пранікнёных і прачулых радках Ірыны мне бачыцца так шмат бацькоўскага, глыбокачалавечага. Гэта, напэўна, тое самае роднае, генетычнае.

Вось так яно бывае: жывеш і не ведаеш, што побач непрыкметна ходзіць таленавіты паэт, які аднойчы ўскалыхне цябе сваім паэтычным адкрыццём. Хочацца спадзявацца, што талент Ірыны Дубашынскай будзе заўважаны.

**Казімір КАМЕЙША**

Ірына ДУБАШЫНСКАЯ



***

*Ты прынёс дадому лісце клёна —*
*Вунь стаіць у шклянцы на акне.*
*А я думала, што ты шалёны,*
*А ты добры, бы ў дзіцячым сне.*

*Ты стамлёны, просты, без хітрыны,*
*Сеў сабе і курыш задумёна.*
*Хай жа будзе толькі для Ірыны*
*На тваім акенцы лісце клёна.*

***

*Запаліла свой ліхтар*
*У небе панна-поўня.*
*Хай жа прыйдзе гаспадар,*
*Што ёй будзе роўня.*

*Мо і мне ліхтарык свой,*
*Што у сэрцы тлеецца,*
*Запаліць? І хто душой*
*Ля мяне прыгрэецца?*

***

*Вось і зноў прыйшла зіма*
*Пакаціла кола ў студзень.*
*А мяне з табой няма*
*І ніколі больш не будзе.*

*Белы волат на двары*
*Дахі снегам пасыпае.*
*Пад бясконцыя вятры*
*Замяце завея злая.*

*Поўня вунь ідзе сама,*
*Галаву сівую студзіць,*
*А мяне з табой няма*
*І ніколі больш не будзе.*

***

*Пайду па вуліцы па вузкай,*
*А па шырокай не пайду.*
*На мове роднай, беларускай*
*Я словы для цябе знайду.*

*Галінка ў валасы трапляе*
*І расплятае мне касу.*
*Гавораць: «Ўсё адна гуляе».*
*А я цябе ў сабе нясу.*

## Грыбная гісторыя

*У мяне няма спакою*
*Ад журбы.*
*Не пайсці хіба з табою*
*У грыбы?*

*Там, у лесе,*
*Дзіва-дзіўнае глядзець.*
*Хваляваецца,*
*Мо прытупае мядзведзь.*

*Ды галінкі*
*І травіначкі згінаць,*
*Каб грыбныя*
*Капялюшыкі шукаць.*

*Вось чырвоны,*
*Вось ружовы сыраеж.*
*Ды глядзі ты, іх*
*Сырымі не паеш!*

*Ну, не злуйся,*
*Я жартую над табой.*
*Сам жа ведаеш,*
*Ты самы любы мой.*

*Пойдзе дожджык.*
*Сумна дубу аднаму...*
*Стаўлю кошык,*
*І цябе я абдыму.*

*Так скажы: «З табой мы пара*
*Назаўжды.*
*Як Сымон той і Барбара.*
*Не тужы!»*

## Пані Ірэна

*«Пані Ірэна, пані Ірэна,*
*Мо нарадзілася ты не дарэмна! —*
*Тата казаў мне, —*
*Пані Ірэна шчаслівая, пэўна?»*

*«Так, я шчасліваю буду заўжды.*
*Хай адлятаюць мроя́й гады.*

*Буду я радасна дні сустракаць,*
*Весела жыць і песні спяваць.*

*Веру я людзям, веру нябёсам,*
*Веру ў сустрэчу з ветлівым лёсам!»*

*Так я казала ў юнацтве маім.*
*Толькі жыццё было іншым зусім…*

*Тата загінуў, маці памерла.*
*Следам і брата душа адляцела.*

*Родных няма. Любы з другой.*
*Як гадаваць мне сыночка адной?*

*Да манастырскай сцяны я пайшла.*
*Там сабе працу і долю знайшла.*

*Што атрымала?*
*Доўгацярпенне.*
*І зразумела: жыццё — як імгненне.*

*Бог хоча міласці, а не ахвяры.*
*Мы просім літасці, толькі не кары.*

*«Пані Ірэна, пані Ірэна,*
*Мо нарадзілася ты не дарэмна!» —*
*Тата казаў мне.*

*Дзе твае вочы, пані Ірэна?*
*Плакала ноччу доўга, напэўна…*

***

*Няхай бы ўсе мяне забылі.*
*Не лаялі, не гамані́лі.*

*Каб не было балюча ім*
*За цяжкі, горкі успамін.*
*За тое, як жыла я дрэнна*
*І ўсіх уразіла, напэўна,*

*Сваёй бязглуздасцю жыцця.*
*Без меры, аж да забыцця*
*Ўсяго святога. Як на дне.*
*Няхай забудуць пра мяне.*

***

*Надакучылі паўторы*
*Ў думках уласных і ў жыцці.*
*Як пасрэдныя акцёры*
*На прэм'ерным адкрыцці.*

*Хто зірне, а хто паўстане?*
*Нас, цярплівых, вельмі шмат.*
*Ці ж не зробім намаганне*
*Выбраць лепшы варыянт?*



Фота Кастуся Дробава

Тацяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ



***

*актрыса ўва мне*
*не грае ролі але*
*ў чужым ажывае жыцці*
*і бачыць чужыя сны*
*вачыма маімі*
*амаль сляпымі*
*і сэрцам маім*
*амаль нежывым*
*дзе леташні снег плыве*
*насустрач вясне*
*шкадуе шкадуе шкадуе*
*ўсіх і снег растае*

***

*запаланіла нешта*
*між рэбраў прастору*
*няма куды дыхаць*
*глыбей*
*і рыбінай па пяску*
*скачу*
*а нехта гаворыць*
*прыгожы танец*
*вар'яцкі досвед*

***

*схавае снег на маім сэрцы тэксты*
*што Бог надрапаў там цвіком*
*без мэты*
*а Сам пайшоў далей цішком*

*і доўга я не ведаў дзе падзецца*
*ад гэтага бязмоўнага шаленства*
*і паміж крыг я спрабаваў сагрэцца*
*і ў вогнішчы спаліць нябачнае*
*калецтва*
*але*
*кладзецца на зямлю спакойна снег*
*і на мяне*

***

**Как хороши,**
**как свежи были розы**
**В моём саду!**

**І. Мятлеў**

**Как хороши,**
**как свежи будут розы,**
**Моей страной**
**мне брошенные в гроб!**

**І. Севяранін**

**Я чую водар хрызантэмаў,**
**Якія кінуць мне ў труну.**

**А. Кавалеўскі**

*Я адчуваю водар кавы,*
*Што Вы нальеце мне ў труну,*
*Уласна Вамі згатаванай*
*Пачаставаць мяне адну.*

*У тонкіх пальцах затрымайце*
*Маёй душы нікчэмнай прах.*
*Героі зніклі? Не знікайце.*
*Не абяцаў абраны шлях*

*Ні хэпі-энду, ні лаўровых*
*Вянкоў, ні руж пад белы крыж.*
*Ды кубак у руках нервовых*
*З-пад кавы донцам дагары.*

## Віктар ГАРДЗЕЙ

# Чарадзейнае слова



*Сябру дзяцінства*
*Мікалаю Барысавічу Гардзею*

Не за морам сінім, не ў Індыі далёкай, а дакладна ў Малым Сяле нарадзіўся і жыве прыпяваючы галасісты і непаседлівы, хаця, можа, трошкі і шальмаваты, Коля Тадорчын. Ён і да гаспадарчай справы дужа здатны і ахвочы. Вось сам, па сваёй волі, узяў ды прапалоў касцярогу і лебяду ў агародзе, зноў жа, без ніякага прымусу пільнуе на поплаве чародку гусянят, каб не пахапаў нахрапісты шуляк.

Але больш за ўсё на свеце Коля любіць спяваць душашчыпальныя індыйскія серэнады і арыі. Надоечы два вечары запар славуты фільм пра заморскага бадзягу і яговых слязлівых каханак прыезджыя кіншчыкі паказвалі ў прасторнай Зосінай хаце, і ўсе два вечары Коля, затаўшыся ў цёмным закутку, неадрыўна глядзеў на белы экран, шчыра перажываў за ўсё, што дзеецца перад вачыма і там, у далёкай нянаскай краіне.

Акурат усталявалася сонечнае надвор'е, і колькі раніц у Малым Сяле толькі і размоў было пра незвычайны музычны вэрхал у Зосінай хаце, а тут нечакана і Коля, пераймаючы індыйскіх спевакоў, пачаў выцінаць нячутую раней мелодыю. Прыходзьце сюды ўсе, каго ўразіў гэты кранальны голас, пастойце, паслухайце, і вы самі пераканаецеся, што дзея адбываецца не ў казачнай Індыі, а зусім побач, у Тадорчыным вялікім садзе.

Спявае Коля натхнёна і заўзята, галоўнае — вельмі гучна, на ўсю моц лёгкіх, каб песні чуліся далёка. Каля галасістай сялібы ў людзей знікае смутак і боль, а зласлівае сэрца напаўняецца спагадай і пяшчотай.

Паслухаць задушэўныя індыйскія шлягеры і напевы прыйшлі лепшыя Колевы сябры — Стась, Шура ды яшчэ цэлая гурма маладзейшых падшыванцаў.

— Хораша спяваеш — ажно ў маім двары чутна, — сказаў Стась. — Але павучыцца, Коля, табе не зашкодзіла б.

— Трэба ў Індыю ляцець, — параіў Шура. — Там жа, на месцы, людзі спяваюць яшчэ лепш, чым мы чулі ў Зосінай хаце.

Пра Індыю Коля ўжо і сам думаў. Толькі як туды патрапіць? На ровары далей чым да Ганцавіч не заедзеш. Вось каб мець свой кілім-самалёт! Адзін момант, і ты — у Індыі. Пахадзіў, павучыўся, запомніў іхнія напевы і мелодыі. Момант — і ты зноў дома. Гэта ж такая важнецкая штука, кілім-самалёт! І перамяшчаецца ён у прасторы, каб вы ведалі, адным рухам думкі, па тваім жаданні.

— Помніцца, над ложкам у бабы Тадоркі вісеў квяцісты кілім, — кажа практычны Стась. — Паглядзі добра. Мабыць, гэта і ёсць усамдзелішні кілім-самалёт.

— Не забудзь толькі. Каб кілім-самалёт падняўся ў неба, трэба сказаць чарадзейнае слова. Ці ёсць яно ў цябе? — вучыць сябра ўсёзнайка Шура. — Я чытаю казкі, дык там інакш і не бывае.

Здаволеныя сябры і гурма дураслівых падшыванцаў разбегліся хто куды, але пра іхнія дасціпныя парады Коля не забыў. Як толькі на панадворку стала ціха, хуценька вынес з хаты бабулін прыгожы кілім, разаслаў пад прысадамі з берагу поплава. Паглядзеў — і сам залюбаваўся. У падслепаватай хаце кілім быў цьмяны і шэры, а ў сонечных промнях раптам заззяў, засвяціўся мудрагелістым персідскім узорам: тут лісцік, там — завіток, пасярэдзіне — сцяблінка.

Хто ні ідзе — спыніцца, уталопіць вочы на дзіўны заморскі арнамент, справядліва ацэніць кілім як надта ўжо дарагую рэч. Радасны Коля не стамляецца тлумачыць і даводзіць усім, што гэта сапраўдны кілім-самалёт і, паверце, зусім не горшы, чым у вядомых дзіцячых казках.

На квяцістым кіліме Коля прылёг, павярнуўся і так, і гэтак: а што, зручна, мякка, улежна! Дрыхне шэльма, не раўнуючы, як паўпанак, думае тое чарадзейнае слова ды не забывае пра гусянят на поплаве, адсочвае нахабнага шуляка ў небе. Драпежнік, быццам наўмысна, кружляе паблізу, а запаветнае слова ўсё не прыходзіць Колю на язык, хоць ён ужо вымавіў уголас мо тысячу самых розных, вядомых і рэдкіх, слоў. Кілім як ляжаў на траве, так і ляжыць, не зварухнецца.

Стаміўся Коля і ад хатніх клопатаў, і ад перажыванняў: не бачыць яму Індыю як сваіх вушэй. Не прыкмеціў, калі і дрымота агарнула.

Многа ці мала спаў, але разбудзіў яго нечуваны шум і лямант на панадворку. Гэта ад сябровак, такіх жа старэнькіх, як і сама, вярнулася баба Тадорка, з калгаснага палетка, дзе жанкі полюць лён, на полудзень прыйшла стомленая мама Ганна.

— Коля, ты лічыў гусянят? — пытаецца бабуля. — Здаецца, было дзесяць, а цяпер дзевяць.

— Няйнакш адно шуляк сцібрыў, — здагадаўся Коля.

— А навошта ты з хаты кілім выцягнуў? — пытаецца мама. — І цяпер бязладна коўзаешся па ім.

— У Індыю хачу ляцець, — спрасонку выдаў запаветную мару Коля.

— Вось як хаплю дубца — будуць табе і гусяняты, будзе табе і Індыя, — пагразіла мама.

— Мама! Не трэба дубца! — спалохаўся Коля.— Я ж не наўмысна.

І тут здарыўся цуд. Квяцісты кілім-самалёт ажыў, уздрыгнуў, варухнуў складкамі матэры, як скрыдламі, і лёгка, разам з Колем, падняўся ўгару, вышэй за ясені. У добры час было вымаўлена чарадзейнае слова: «мама». Ніхто нічога не зразумеў, а Коля, хітрун, адразу скеміў і ўжо крычыць з вышыні:

— Пачакайце трошкі! Я паспею адабраць у каршука наша гусянятка!

Кіравацца трэба ў Імшэчак — наводшыбе Малога Сяла — там, у старых ельніках, здавён атабарыліся варанякі, каршуны, крумкачы. Яшчэ зводдаль Коля ўбачыў бухматае гняздо на высокай яліне. Нахабны драпежнік акурат падвастрыў кіпцюры, пачысціў дзюбу, абапнуў на рабое пер'е белую сурвэтку і ўжо збіраецца смачна папалуднаваць здабычай.

Кілім-самалёт ніколі не спазняецца. Напаўжывое, знявечанае гусяня Коля выхапіў проста з драпежніцкіх кіпцюроў, а стараму шуляку надаваў у каршэнь — не хутка таго пацягне на дармовую гусяцінку.

Хвала табе, чарадзейнае слова! Адзін момант, і Коля дома. Кілім-самалёт зрабіў круг над сялібай і плаўна апусціўся паміж прысадамі, дакладна на тое месца, дзе і ляжаў. Плача мама, цалуе шэльму бабуля. А гусянятка з радасным піскам, кульгаючы, патэпала ў сваю чараду на поплаве.

Бачыце, колькі добрых спраў за адзін дзень зрабіў Коля. Індыйскімі песнямі пацешыў суседзяў і сяброў, выратаваў гусяня, строга пакараў нахабнага шуляка. Шкада толькі: у Індыю не патрапіў. Мама і баба забралі кілім-самалёт, на сцяну не павесілі, а схавалі ў куфар, ды яшчэ і замочак пачапілі. А то, кажуць, неслух задумае зноў лятаць над Малым Сялом.

У Колевай хаце гуляў Стась, гуляў я, і не адзін раз, усё сам бачыў і чуў. Вось вы папрасілі, і я збаяў вам ці то казку, ці то праўдзівую быль пра слаўнага хлопца Колю Тадорчына, які і сёння не разлюбіў жаласлівыя індыйскія арыі і шлягеры.

Зрэшты, няма бяды і ў тым, калі гэтая неверагодная гісторыя пра кілім-самалёт і чарадзейнае слова мне аднойчы прыснілася.

## Андрэй СІДАРЭЙКА

# Цюльпаны, ружы і мімозы



Іх супакоілі. Прадаўшчыцу і Мішку.

Мішка, якога выводзілі з крамы Воўка і Колька, усё ж сказаў на развітанне некалькі слоў. Маўляў, няякасны напітак рэалізуючы, дзяруць немалыя грошы, а пасля сцвярджаюць, што людзей губіць вада.

— А я тут пры чым? — апраўдвалася прадаўшчыца. — Якое прывозяць, такое і рэалізуем.

Прадаўшчыца была мілавідная, сярэдніх гадоў жанчына.

— На вас зірнуць, то вы — нічога, а людзей дык дурыце, — сказаў у дзвярах Мішка.

— Усе вы так, мужчыны, кажаце, — паляцела наўздагон сумнае, жаночае, — а самі глядзіце не на прыстойную і прывабную, а на прылавак.

На вуліцы да нас падскочыў Сашка. Утварылася кампанія. Была нядзеля, таму ніхто не спяшаўся. Мішка выцягнуў з кішэні штаноў «зялёны» грошык і паварцеў яго ў паветры перад нашымі насамі. Мы былі не супраць. Дасталі з кішэняў купюры рознай вартасці, прадэманстравалі перад Мішкам яго ж трук.

Адным словам, скінуліся.

Мішка з урачыстасцю зазначыў:

— Айчынную вытворчасць патрэбна падтрымліваць: добрую і розную.

Што ж, купілі таматны сок.

Ужо за прылаўкам, распіваючы другую шклянку цягучай вадкасці, Мішка стаў гаварыць шчыра:

— Бач ты, як у жыцці бывае, — пачаў ён здалёк, — да 23 лютага штодзень у каляндар часцей заглядвала Маша, а пасля стаў я.

— Пэўна, «сямейны» каляндар вам прыйшоўся даспадобы, — разважыў Колька.

— Яшчэ б, — у тон адказаў Мішка, — асабліва калі бачыш перад носам даты такіх грандыёзных маштабаў.

Сашка строга зазначыў:

— А дзе факты?!

Мішка факт выдаў:

— 8 Сакавіка ўжо заўтра!

— Хіба?!

Мішка кіўнуў.

Мы дружна пачухалі патыліцы. У адрозненне ад Мішкі, з нас ніхто не меў звычкі заглядваць ў каляндар ні напярэдадні свята, ні пасля яго. Бо жылі адным днём.

— Падарунак ужо выбраў? — пацікавіўся Воўка.

— У тым і справа, што не, — разгублена вымавіў Мішка. — А горш за ўсё другое: я і не ведаю, што выбраць...

Сашка здзівіўся.

— Як? Зусім няма ніякай думкі?

Чатыры пары вачэй утаропіліся на Мішку.

— На Новы год скончыліся ўсе, — з сумам канстатаваў той. — Яшчэ напярэдадні нашага першага сямейнага свята я запытаўся ў Машы: «Что тебе подарить, человек мой дорогой?» — Яна ж на здзіўленне адказала: «Кветкі». — На той час я хадзіў у неадпрасаваных штанах, таму падарыў ёй прас «Алеся». Наступным разам я таксама пачуў знаёмы адказ: «Кветкі». — Падарыў Машы патэльню «Tefal». Маўляў, сама, каханенькая, бачыш, што я заўсёды клапачуся і думаю толькі пра цябе. І яшчэ шмат якіх добрых рэчаў па парадах рэкламы падарыў я Машы. А на гэты Новы год яна мне кажа: «Ведаеш, любы, для поўнага сямейнага шчасця нам не хапае толькі кухоннага камбайна. Але я не хвалююся, бо ведаю, што знайду яго пад ёлкай у навагоднюю ноч».

— Як у ваду глядзела, — расчаравана ўздыхнуў Мішка. — Мабыць, гэтым разам усё ж такі падару ёй кветкі. Ніколі не здагадаецца!

І Мішка паставіў на прылавак пустую шклянку.

— Тут ёсць паблізу некалькі кропак, — пачаў прыпамінаць Сашка, — дзе гандлююць кветкамі.

...Праз пяць хвілін мы стаялі каля трох кветкавых магазінаў, якія мелі адну і тую ж назву — «Кактус».

Мішка абурыўся:

— Хіба тут знойдзеш ружы?

— Можа, за калючкамі кактусаў разгледзім і ружы, — знайшоўся Воўка.

У першым магазіне вочы ад кветак разбягаліся ва ўсе бакі, як зайцы ад ваўкоў, але ў натоўпе было прашыцца. У другім прапанова не задаволіла наш спажывецкі попыт. Толькі ў трэцім пашанцавала.

— Вам што? — запыталася ў нас адна з дзвюх прадаўшчыц — маладзенькіх дзяўчат.

— Нам...

Мішка разгублена паглядзеў спачатку на нас, а потым на прадаўцоў.

— Якія кветкі вам падабаюцца? — не адступала ад нас другая дзяўчына.

— А нам бы зірнуць...

Нас правялі у глыб залы, — паказваюць і адначасова расказваюць.

— У першых радах у нас цюльпаны. Вось цюльпан «Голландская принцесса», вось «White dream», «Парад», «Абба». Далей — ружы. Гэта ружа «Гран-при», гэта «Forever young», а гэта «Опиум». Апошні рад — мімозы.

Маладзенькая дзяўчына настойліва запыталася зноў:

— Які ваш выбар?

— А хіт сезона? — знайшліся мы.

— А дарыць вы будзеце ад сэрца або каб адкруціцца?

Мішка, было відаць, на імгненне прызадумаўся, але, злавіўшы пільныя нашыя позіркі, адразу ж ажывіўся.

— А як жа, — пачаў Мішка, — вядома, ад сэрца.

Хаваючы ўсмешку, адна з прыгажунь накіравала:

— Тады вам сюды.

Нам паказалі на супрацьлеглы кут. Мы рушылі следам.

— Рамонкі, маргарыткі, нарцысы, ландышы, незабудкі — набор самых модных кветак гэтага сезона.

Мішка здзівіўся.

— Вось гэта?!

Мы паглядзелі на кветкі, а потым на кошт.

— Калі так, то такіх кветак я падару Машы хоць ахапак, — не хаваючы свайго задавальнення, сказаў Мішка. — І ад сэрца, і з задавальненнем, і адкручуся заадно, — раскрыў нарэшце ён свае карты.

...Праз некалькі хвілін кожны з нас выйшаў з магазіна са сваім «хітом сезона».

— А ведаеце, як Пушкін пісаў? — запытаўся Колька.

— Як Пушкін — не, а вось Рубцова — чыталі.

І Мішка заспяваў не горш за Аляксандра Барыкіна:

*«Я буду долго*
*Гнать велосипед.*
*В глухих лесах его остановлю.*
*Нарву цветов*
*И подарю букет...»*

Мішка прыпыніўся.

— А ўсё ж, Сярожа, — сказаў ён мне, — букет рамонкаў — не кухонны камбайн. Ды сэрцу не загадаеш...

Тое, што сказаў мне Мішка, ніхто не пачуў, бо ўсе дружна падтрымалі песню і таму па бязлюднай вуліцы ляцелі радкі на верш Мікалая Рубцова:

«...Той девушке, которую люблю...»

# Жанчына ў літаратуры: творца альбо аздоба?

**Літаратуразнаўца Святлана Калядка паспяхова выкарыстоўвае ў сваіх даследаваннях гендарную метадалогію. Адна з галоўных тэм навукоўцы — жанчына ў беларускай літаратуры. Меркаваннямі па некаторых праблемных пытаннях Святлана Уладзіміраўна дзеліцца з чытачамі «ЛіМа».**



**— Спадарыня Святлана, чаму вы звярнуліся да гендарнай метадалогіі?**

— Гендарная метадалогія ўвайшла ў літаратуразнаўчыя даследаванні ў канцы XX стагоддзя, у беларускае — на пачатку XXI. Абумоўлена гэта, у першую чаргу, з'яўленнем мастацкіх твораў з ярка выражанымі гендарнымі пазіцыямі іх аўтараў. Патлумачыць такую праблематыку могуць толькі гендарныя тэорыі, адсюль і сённяшняе захапленне маладых даследчыкаў новымі падыходамі да вывучэння «мужчынскай» і «жаночай» літаратуры, зварот да гендарных аспектаў аўтарскага самараскрыцця.

У свой час не абышла ўвагай магчымасцей гендарнай метадалогіі і я. Цікава паглыбіцца ў псіхалогію аўтара і лірычнай гераіні, наблізіцца да асэнсавання феномена «ўнісексу», ці андрагіннай прыроды ў характары творчага самавыяўлення. «Унісекс» кіруе не толькі тэндэнцыямі ў модзе, але і ў літаратуры. Маладыя аўтары часта не засяроджваюцца на выяўленні прыроднага пачатку, сваёй жаночай/мужчынскай існасці праз мастацкае слова — гэта мэта становіцца другараднай ці ўвогуле неістотнай у творчым самараскрыцці.

Гендарны падыход у даследаваннях беларускай жаночай паэзіі дазваляе асэнсаваць нацыянальныя рысы жаночай суб'ектыўнасці, ментальнасць беларускі. Аднак гэта не адзіная метадалагічная сістэма, да якой я звяртаюся. Напрыклад, мяне заўсёды цікавілі міждысцыплінарныя даследаванні.

**— У Беларусі на дзяржаўным узроўні разглядаецца гендарная праблематыка, але асобныя даследаванні фіксуюць невысокую гендарную кампетэнтнасць беларускіх педагогаў. Ці неабходна звяртацца да вывучэння гендаралогіі ў педагагічных ВНУ, акцэнтаваць гендарныя праблемы пры вывучэнні літаратуры ў сярэдняй школе?**

— Безумоўна, гэта патрэбна. Гендарныя даследаванні не праводзяць палітыкі дыстанцыянавання «мужчынскага» і «жаночага». І разумныя даследчыкі не скіроўваюць да вайны паміж мужчынам і жанчынай за ўсталяванне т. зв. гендарнай раўнавагі паміж імі ва ўсіх сферах жыцця, таму што заклікі да абсалютызацыі ў адносінах шкодзяць не меней, чым фемінісцкія заклікі да незалежнасць існавання ў сусвеце «Яго» і «Яе». З дапамогай гендарных падыходаў у разглядзе розных праблем больш пэўна акрэсліваецца іх сацыяльная ангажаванасць, культуралагічная прывязанасць, акцэнтуецца ўвага на «жаночым» баку.

Сучасныя студэнты павінны ведаць жаночую гісторыю, аднак тут важна пазбегнуць крайнасцей, у якіх апынулася Еўропа, адстойваючы правы меншасцей і навязваючы дзецям у школах новы погляд на адсутнасць сувязі паміж паводзінамі, учынкамі і полам, фізіялогіяй асобы. Бясполая істота паддаецца замбіраванню хутчэй, чым сацыяльна арыентаваная асоба. Я таксама за тое, каб сучасны школьнік па магчымасці разам з аналізам паэтычных і празаічных твораў засвойваў азы ўсіх сучасных літаратуразнаўчых метадалогій. Гэта не пашкодзіць у фарміраванні і развіцці аналітычных здольнасцей.

*Сучасныя студэнты павінны ведаць жаночую гісторыю, аднак тут важна пазбегнуць крайнасцей, у якіх апынулася Еўропа, адстойваючы правы меншасцей і навязваючы дзецям у школах новы погляд на адсутнасць сувязі паміж паводзінамі, учынкамі і полам, фізіялогіяй асобы. Бясполая істота паддаецца замбіраванню хутчэй, чым сацыяльна арыентаваная асоба.*

**— Падчас адной з дыскусій вы зазначылі, што ў беларускай літаратуры ў 1960 — 1980-я гады было нямала жанчын і з іх няварта рабіць ахвяр. Аднак тагачасныя жанчыны-празаікі амаль невядомыя сучаснаму чытачу. Наколькі жанчына магла «раскрыцца» праз літаратурную творчасць у час панавання савецкай ідэалогіі?**

— У той час у беларускую літаратуру прыходзілі творцы пасляваеннага пакалення, апантаныя, з гарачым жаданнем заваёўваць новыя мастацкія вышыні. І сярод іх было шмат аўтараў-жанчын, большасць з якіх — паэтэсы. «Натуральны адбор» лепшых сярод лепшых прадвызначыў тое, што сёння 1970 — 1980-я гады звязваюць з імёнамі паэтэс: Е. Лось, Д. Бічэль-Загнетавай, Я. Янішчыц, Н. Мацяш, В. Коўтун, Р. Баравіковай... Спіс гэты можна доўжыць і доўжыць.

Маладаследаваная сярод празаікаў творчасць А. Васілевіч, Л. Арабей. Але імёны жанчын-празаікаў мы сёння пералічым па пальцах. І не таму, што ў іх былі іншыя ўмовы для творчасці, а, можа, таму, што час адлігі «нагадаў» пра жывыя чалавечыя пачуцці, перажыванні, эмоцыі, якія доўгі час былі пад забаронай і прасіліся менавіта ў паэтычныя радкі.

**— Дарэчы, ніводная жанчына не ўзнагароджана званнем «Народны пісьменнік Беларусі»...**

— Калі ў творчым плане адзіным крытэрыем сапраўднага быў талент, то ў сацыяльным абжыванні літаратурнага Парнаса былі пэўныя праблемы. Відавочны гендарны перакос дэманструе нам статыстыка па Саюзе пісьменнікаў па звестках на 1974 год: з 301 члена СПБ толькі 24 жанчыны. У 1987 годзе прысутнасць жанчын у шэрагах членаў СПБ павялічылася да 47 чалавек (улічым, што гэту лічбу складаюць і пісьменнікі, і перакладчыкі, і літаратуразнаўцы). За 10 гадоў членамі СПБ сталі толькі 23 жанчыны!

Пісьменнікі-мужчыны паблажліва паглядалі на паэтэс як на вучаніц, падтрымлівалі іх у намаганнях заняць пачэснае месца сярод творчай эліты, вучылі, як трэба рабіць творы і зборнікі. Жанчыны-пісьменніцы разбаўлялі кампанію творцаў-мужчын у творчых камандзіроўках, на сустрэчах з чытачамі, на вечарах паэзіі, аднак слова на вялікіх літаратурных сходах, сімпозіумах, з'ездах ім давалі зрэдку. Паэтэсы аздаблялі сваёй прысутнасцю дэлегацыі, але далей гэтага справа не рухалася. Права жанчын — пісаць пра пачуцці, права мужчын — ствараць сапраўдную літаратуру. У выніку падобнага гендарнага размеркавання роляў так і не стала народнай паэтэсай ні адна з яркіх, самабытных аўтарак. Пасля смерці Яўгеніі Янішчыц было шмат разваг пра тое, што пад сваё 50-годдзе яна магла прэтэндаваць на гэтае званне. Калі б жыла, калі б так вырашыла шаноўная мужчынская большасць…

**— Над якой тэмай вы працуеце цяпер?**

— Амаль 15 гадоў мая навуковая дзейнасць звязана з даследаваннем беларускай паэзіі XX — пач. XXI ст. Пачынаючы ад класічна-традыцыйнай акадэмічнай працы па вывучэнні жыцця і творчасці Яўгеніі Янішчыц, я рушыла да асэнсавання сацыяльнай ролі жанчыны, гендарных аспектаў у беларускай паэзіі азначанага перыяду, экзістэнцыяльных праблем у аўтарскім светаўспрыманні паэтаў і паэтэс XX ст. Апошнія пяць гадоў мая навуковая дзейнасць звязана са стварэннем метадалогіі літаратуразнаўчай эматыялогіі — новага для тэорыі літаратуры адгалінавання ў аналізе паэтычнага тэксту. З эмацыянальнага водгуку на свет,

*У выніку падобнага гендарнага размеркавання роляў так і не стала народнай паэтэсай ні адна з яркіх, самабытных аўтарак. Пасля смерці Яўгеніі Янішчыц было шмат разваг пра тое, што пад сваё 50-годдзе яна магла прэтэндаваць на гэтае званне. Калі б жыла, калі б так вырашыла шаноўная мужчынская большасць…*

з уласных перажыванняў пачынаецца паэзія, нараджаецца твор, які выклікае эмацыянальнае ўзрушэнне ў чытача. Колападобны рух эмоцыі падтрымлівае жыццё твора. Гэтаму і прысвечаны мае апошнія навуковыя працы.

З 2013 года разам з Тамарай Аўсяннікавай, аднакурсніцай Яўгеніі Янішчыц, працуем над Зборам твораў паэтэсы (з падтрымкі Беларускага рэспубліканскага фонду фундаментальных даследаванняў).

**— Ці ёсць у гэтай працы нейкія цікавыя асаблівасці?**

— Ужо на стадыі збору і апісання знойдзенага матэрыялу са спадчыны Я. Янішчыц я сутыкнулася з няпростай праблемай падачы выяўленых дакументаў. Я прыхільнік акадэмічнага падыходу: тэксты падаюцца ў адпаведнасці з храналогіяй іх апублікавання ў зборніках, а каментары ўтрымліваюць неабходную інфармацыю пра гісторыю напісання твора. Аднак акадэмічныя выданні не прадугледжваюць уключэнне матэрыялаў, звязаных з біяграфіяй аўтара і яму прысвечаных. І гэта вялікі недахоп. Сучасны свет з развітымі інтэрнэт-тэхналогіямі кіруецца да стварэння ўніверсальных крыніц атрымання звестак пра свет, людзей, прадметы, з'явы і г. д.

Мы вырашылі пайсці на смелы эксперымент: сабраць усё, што мае дачыненне да жыцця і творчасці Яўгеніі Янішчыц, стварыць універсальнае выданне, якое выходзіць за межы жанру Збору твораў і забяспечвае чытача ўсёй неабходнай інфармацыяй пра аўтара. Нестандартным шляхам падаюцца і самі тэксты: побач з кожным вершам прадстаўлены каментары розных даследчыкаў, успаміны, інфармацыйныя звесткі і гістарычныя тлумачэнні, звязаныя менавіта з гэтым творам. Тут ёсць традыцыйныя раздзелы: вершы, паэмы, апавяданні, пераклады, рэцэнзіі, інтэрв'ю з паэтэсай і г. д. Ёсць і раздзелы, якія звычайна не прадугледжаны гэтым жанрам: у асобнай падачы — хроніка жыцця і творчасці, летапіс апублікаваных твораў, радавод, успаміны пра паэтэсу, вершы, прысвечаныя Янішчыц. У дадатку да Збору твораў — дыск з запісам вершаў, якія чытае паэтэса, і песнямі на яе словы ў выкананні Таццяны Беланогай. Самым цікавым для чытача стануць незнаёмыя вершы Янішчыц і вершы, якія публікаваліся толькі ў перыёдыцы і таму многім аматарам яе творчасці малавядомыя.

**— Часам можна пачуць, што беларускія пісьменнікі-класікі на сёння ўжо дастаткова даследаваны. Сапраўды, па творчасці Якуба Коласа ці Янкі Купалы напісана нямала манаграфій, але праз недахопы сацыялагічнага метаду ў савецкім літаратуразнаўстве многія выданні падаюцца сёння не вельмі актуальнымі. Якія прынцыповыя задачы стаяць перад новым пакаленнем навукоўцаў?**

— Досвед нашай працы над Зборам твораў Янішчыц сведчыць, што беларуская навука не застылая і рухаецца разам з часам у пошуках новых ідэй. Я пагаджуся з вамі ў тым, што не хапае сур'ёзных акадэмічных прац, прысвечаных беларускім класікам, у якіх бы з пазіцый найноўшых метадалагічных сістэм разглядалася іх творчасць. Але варта ўмець чытаць і ўчытвацца. У многіх нібы «не вельмі актуальных» працах сканцэнтравана мноства навуковых ідэй, якія ў святле новых магчымасцей літаратуразнаўчага даследавання далі б немалы плён.

Прыходзяць маладыя даследчыкі, якія імкнуцца запоўніць прагалы ў беларускім літаратуразнаўстве. Аддана, шчыра, таленавіта ў аддзеле тэорыі і гісторыі літаратуры працуюць М. Тычына, Я. Гарадніцкі, Г. Кісліцына, Л. Кісялёва, якія звяртаюцца да літаратурнага працэсу ад канца XIX ст. і да нашых дзён, даследуючы гэты вялікі гістарычны перыяд найноўшым літаратуразнаўчым інструментарыем.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

**Даведка "ЛіМа"**

Святлана Калядка — літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Аўтар сямі манаграфій, сярод якіх тры аўтарскія: «Непрыручаная птушка Палесся: творчая індывідуальнасць Яўгеніі Янішчыц» (2007), «Беларуская сучасная жаночая паэзія: мастацкія канцэпцыі "жаночага шчасця"» (2010), «Максім Танк: новыя факты, матэрыялы, інтэрпрэтацыі» (2014), адзін з укладальнікаў і складальнікаў Збору твораў Максіма Танка ў 13 тамах, аўтар больш як 100 навуковых публікацый.

# Таямніца сяброўства

**Аповесць «Паэт», прысвечаная Максіму Багдановічу, была напісана Палінай Качатковай яшчэ ў 1995 годзе для часопіса «Бярозка». З 2003 года гэты тэкст можна было адшукаць на беларускіх літаратурных сайтах, а цяпер у фармаце электроннай кнігі аповесць змешчана на сайце *bybooks.eu*.**

Твор будзе карысным і займальным чытвом для кожнага, хто мае намер больш даведацца пра асобу паэта, яго сям'ю і акалічнасці жыцця. Як супрацоўнік Літаратурнага музея М. Багдановіча ў Мінску, П. Качаткова вырашыла, што «будзе адносіцца да Багдановіча як да сябра», — у выніку твор напісаны менавіта ад імя сябра, колішняга гімназіста, які ў вельмі сталым узросце даведваецца са старой газеты пра смерць Максіма і пачынае ўспамінаць... Час дзеяння — некалькі месяцаў вучобы М. Багдановіча ў яраслаўскай гімназіі (ад першых заняткаў да смерці аднакласніка Ціхамірава). Апавядальнік згадвае не толькі гады юнацтва, але і гімназічнае асяроддзе, сваякоў Багдановіча, адметныя рысы паэта.

Аповесць атрымалася надзвычай інфарматыўнай дзякуючы шырокаму выкарыстанню вершаў паэта, цытат з кніг, урыўкаў з мемуараў Адама Багдановіча, а таксама эпізодаў з лістоў і ўспамінаў людзей, блізкіх да гэтай сям'і. Сёння, вядома, існуе нямала даследаванняў па жыцці і творчасці паэта-класіка. Але далёка не кожны зацікаўлены пагодзіцца чытаць тэксты ўласна навуковага стылю, а хутчэй звернецца да мастацкай прозы. Твор П. Качатковай дакладна прывабіць вучняў і студэнтаў. Але і больш дасведчаны чытач можа знайсці тут новыя звесткі калі не пра самога Максіма Багдановіча, то пра людзей з яго асяроддзя. Так, адзін з персанажаў аповесці — паважаны гімназістамі настаўнік Парфіры Мізінаў. Вытрымкі з яго кнігі «Гісторыя і паэзія» не толькі з'яўляюцца сведчаннем часу, але і дазваляюць уявіць чалавека, які мог прыкметна паўплываць на развіццё паэта.

Аповесць каштоўная тым, што знаёміць чытача з адмысловай атмасферай, якая панавала ў Яраслаўлі, у гімназіі, у кватэрах Адама Багдановіча. Многія факты з жыцця паэта сёння можна высветліць па энцыклапедыі «Максім Багдановіч», але па-за зместам даведачнага выдання застаецца нямала маляўнічых дэталяў. З аповесці мы даведваемся і пра гімназічнага «слана», і пра пячору ў беразе Волгі, і пра тое, у які час лепш аглядаць яраслаўскі сабор Пятра і Паўла. Жанр твора можна вызначыць як нон-фікшн: тут ёсць і гісторыя, і літаратуразнаўства, і мастацкая выдумка, і рэальныя асобы/падзеі. Кожная сцэна, кожны дыялог — плён аўтарскага ўяўлення, але побач з прыдуманым сюжэтам знаходзяцца дакладныя цытаты з самых розных тэкстаў — ад навуковай манаграфіі да некралогу, — якія вяртаюць чытача ў дарэвалюцыйную Расію, у сям'ю Максіма Багдановіча, у мастацкі свет паэта.

Загадка Багдановіча раскрываецца праз таямніцу сяброўства будучага творцы з Дзіядорам Дзябольскім, аўтарам-апавядальнікам і яшчэ некалькімі гімназістамі. Так, у аповесці добра распрацаваны вобраз апантанага тэатрам гімназіста Ціхамірава і яго няпростыя, поўныя непаразуменняў, адносіны з бацькам. Маладых людзей аб'ядноўвае шчырасць, актыўная грамадская пазіцыя і, вядома, паэзія. Аўтарка супастаўляе розныя жыццёвыя пазіцыі (канфарміст/бунтар), звяртаецца да адвечных пытанняў, асабліва значных у час панавання мадэрнізму (якіх ахвяр вартае мастацтва? як суадносці яго з рэальнасцю?).

Істотна, што ў гэтай аповесці, различанай і на юнацтва, падлеткі не паўстаюць спрошчаным варыянтам дарослага героя, не падаюцца наіўнымі, прымітыўнымі, дурнаватымі. Адпаведна ўзросту, яны больш эмацыянальна ўспрымаюць свет, часцей здзіўляюцца рэчам відавочным і непахісным для дарослых людзей. Адсюль спрэчкі, абмеркаванні, спробы пратэсту. У каго рце сяброў самым жвавым, крытычным і самастойным паўстае Максім Багдановіч, і гэтыя рысы пацвярджаюцца шматлікімі цытатамі. Гімназістам

> *«Аповесць атрымалася надзвычай інфарматыўнай дзякуючы шырокаму выкарыстанню вершаў паэта, цытат з кніг, урыўкаў з мемуараў Адама Багдановіча, а таксама эпізодаў з лістоў і ўспамінаў людзей, блізкіх да гэтай сям'і.*

уласціва імкненне да гераізму, схільнасць да таямніц, цікавасць да забароненага — але ўсё гэта выяўлена ў меру.

Кожны персанаж П. Качатковай — індывідуальнасць. Зрэшты, аповесць не азначана глыбокім псіхалагізмам, бо адна справа — надзяляць пачуццямі і думкамі ўяўнага персанажа, а іншая — рэальную асобу. Таму ўнутраных маналогаў у творы амаль няма, светапогляд персанажаў выяўляецца праз дыялогі — і дадуманая пісьменніцай гісторыя гімназічнага сяброўства выдатна акаляе трапна падабраныя цытаты. Яны не надакучваюць, бо бяруцца з розных крыніц, і калі ў аповесці прыводзіцца даволі вялікі фрагмент — значыць, ёсць у што ўчытацца. Добра, што ўрыўкі з мемуараў і лістоў падаюцца курсівам. Менавіта гэта дазваляе чытачу сарыентавацца ў тэксце.

Твор П. Качатковай пакідае і некаторыя пытанні. Напрыклад, кідаецца ў вочы нявызначанасць аўтаркі ў жанравай прыналежнасці свайго тэксту. У назве — аповесць, а ў прадмове — раман. Некаторыя асаблівасці твора (аб'ём, наяўнасць адной сюжэтнай лініі, у якую часам уплецены эпізоды з жыцця іншых герояў) сведчаць пра яго прыналежнасць хутчэй да аповесці, але ніяк не да рамана. Каментарыі да цытат часам падаюцца непатрэбнымі: ці варта пераказваць сэнс прыведзенага фрагмента, калі ён і так зразумелы.

Але, нягледзячы на некаторыя нюансы, аповесць чытаецца лёгка і натхняе на далейшае знаёмства з творчасцю не толькі Багдановіча, але і іншых беларускіх пісьменнікаў. Так, як у свой час натхніла аўтарку кніга Міхася Стральцова «Загадка Багдановіча». І хіба можа быць пазбаўлены адмысловай энергетыкі тэкст, які познімі вечарамі ствараўся ў самім музеі паэта?

**Вікторыя ГАБРУСЕВІЧ,**
**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

*Кнігарня пісьменніка*

# Восеньскія прывіды, ці Вальс на фоне смутку

**Ведаеце, якое адчуванне прыходзіць, калі гартаеш альбом са старымі фотаздымкамі? Настальгія, меланхолія, флэшбэк — назавіце як заўгодна, сэнс амаль не зменіцца. Кніга «Восень у Вільнюсе» Маргарыты Прохар, якая выйшла у выдавецтве «Мастацкая літаратура», выклікае тыя ж пачуцці.**

*«Было каханне —*
*а вось яго і няма».*

Героі сямі апавяданняў і аповесцей трымаюцца ў гэтым свеце за кошт свайго мінулага: адны з іх нагадваюць жывых прывідаў, іншыя — проста разгубленых, стомленых і самотных істот. Раскіданыя па гарадах, яны, здаецца, аб'ядналіся ў суполку тых, хто ўвесь час уздыхае па няспраўджаным каханні.

Тым не менш персанажы гэтыя зменлівыя. Яны не застылі ў самоце, у іх — вір эмоцый, яны вучацца разумець сябе і марыць аднойчы перахітрыць свой адчай. Гэтыя героі купляюць паветраныя шары ў прадаўца шчасця, здымаюць фільмы пра каханне, сустракаюць сваіх двайнікоў, захапляюцца думкамі з загадкавага зялёнага нататніка, слухаюць легенды пра гару Ведзьмаў і знаходзяць у нумары гатэля раман, напісаны для аднаго чалавека на дзённікавых лістках... Але героям заўжды суправаджае пах «лісця, рудой травы, мокрых ад туману галінак» — восень. Самая тужлівая пара года — безумоўны сімвал кнігі і яе лейтматыў.

Нягледзячы на зусім не вясёлы настрой твораў, не ўсё падаецца такім безвыходным, бо проза ў Маргарыты Прохар вельмі маляўнічая, лёгкая і душэўная. Часта яе героі засяроджваюцца на філасофскіх разважаннях. Яны лічаць, што сэрца — самае моцнае і трывалае, што ёсць у свеце. Што людзі, якія крычаць пра адзіноту, прагнуць знайсці ўважлівага слухача. Яны абураюцца: чаму б замест таго, каб выліваць бруд сваёй душы ў сацыяльныя сеткі, проста не выйсці ўвечары на вуліцу і, скажам, не пакарміць галубоў? Не меншае абурэнне ў гэтых развагах выказваецца на адрас напускнога цынізму, людзей, што саромеюцца чыстага і светлага кахання. Сапраўды, як часта мы баімся паказацца сентыментальнымі, рамантычнымі, смешнымі.

Цікава Маргарыта Прохар распавядае пра гарады і мястэчкі. Вільнюс на паперы паўстае жывой істотай. Горад дыхае; стаіць у задуменні старая прывакзальная плошча, сустракаючы гасцей; перамаўляюцца, нібы добрыя сяброўкі, шапікі... Рыбацкі пасёлак, вакол якога шумяць сосны ды хвалі, захоўвае таямнічую цішыню. Восеньскае мора таксама вартае захаплення: халоднае, прыгожае і самотнае.

Каханне на старонках кнігі шмат, але ў нейкім хвараблівым, скалечаным выглядзе. Сталы мужчына з аповесці «Восень у Вільнюсе» шукае маладую жанчыну, падобную да сваёй каханай, каб тая пабыла ў абліччы дамы яго сэрца. Чаму? Бо каханая ўжо не такая прыгажуня, што была дваццаць гадоў таму! Герой не выклікае спачування, бо ён аднолькава лёгка прамаўляе фразы «Проста я яе ўжо не кахаў» і «Ты — шчасце ўсяго майго жыцця!».

У аповесці «Назіральнік» герой да фанатызму паглыбіўся ў сябе: «Я — назіральнік, таму што стаміўся, жыццё выбіла мяне з каляіны тым, што мой свет і мае мары не знайшлі месца ў гэтым жыцці. Яго змяніць нельга, а сябе я змяняць не хачу. І я проста гляджу на свет, можа, чакаю таго, што верне мне — мяне». Ды няўжо дарослы і не дурны, здаецца, малады чалавек не можа ўзяць сябе ў рукі і перастаць плакацца? Пасля твора ты і сам пачынаеш уважлівей узірацца ў сябе і сачыць за ўласнымі паводзінамі, думаючы, ці не такі ж я «герой»?

Сутнасць твораў, сабраных у кнізе «Восень у Вільнюсе», найбольш ярка раскрываецца ў «Паўночным лецэ». На першы план гэтым разам выходзіць ужо не любоўная драма, але атмасфера — марская кавярня з якарамі на сурвэтках і лодкай у глыбіні залы, маленькая кветачніца, якая носіць ружы на гару добрых Ведзьмаў, загадкавы раман для аднаго чытача... «У гэтых пустэльных мясцінах, як гэта ні дзіўна, мы знайшлі сілы жыць далей, увабраўшы ў сябе іх мудрасць і цярпенне», — кажа галоўная гераіня, якая пераасэнсавала сваё жыццё на прыкладзе няўдалага рамана іншага чалавека.

Маленькія апавяданні «Убачыць мора» (пра хлопчыка, які лічыў, што шчасце знойдзе далёка ад дома) і «Прынцэса і бядняк» завяршаюць




кнігу і ўспрымаюцца як адпачынак пасля цяжкіх папярэдніх твораў і песімістычных пейзажаў.

Варта дадаць, што мастак Уладзімір Васюк стварыў для «Восені ў Вільнюсе» непаўторны рэтра вобраз. Бронзавая папера для вокладкі, чорна-белыя выявы гарадскіх пейзажаў, на якіх, нібы акцэнты, расстаўленыя знакі прыпынку, вельмі гарманічна перагукаюцца з тэкстам.

**Марыя ВОЙЦІК**

*Кнігу можна набыць у «Кнігарні пісьменніка» (вул. Казлова, 2).*

*Кнігарня пісьменніка*

# Пушкін па-беларуску

**З перакладаў Аляксандра Пушкіна на беларускую мову найбольш вядомыя паэмы «Медны коннік» (перастворaная Янкам Купалам), «Палтава» (перакладчык — Якуб Колас) і «Яўгеній Анегін» у перакладзе Алеся Дудара.**

Шмат вершаў рускага класіка перастварылі ў розныя часы тры Максімы — Танк, Лужанін, Багдановіч, а таксама Мікола Федзюковіч, Уладзімір Шахавец ды іншыя беларускія аўтары.

Што да казачнай спадчыны Пушкіна, «Казку пра цара Салтана, пра яго сына славутага асілка князя Гвідона Салтанавіча і пра цудоўную прыгажуню царэўну Лебедзь» пераклаў для малых беларусаў Мікола Хведаровіч, а Алесь Якімовіч, які і сам пісаў пераважна для дзяцей і выдаў шэраг беларускіх казак у сваёй апрацоўцы, пераклаў дзве паэтычныя казкі Пушкіна – «Казку пра рыбака і рыбку» і «Казку пра залатога пеўніка». Апошняя




напрыканцы мінулага года выйшла асобнай кнігай у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Пераказваць сюжэт казкі, канечне, не трэба. Адзінае, што варта сказаць пра тэкст, — гэта яго беларускасць. Алесь Якімовіч надаў твору новае гучанне, якое міжволі наводзіць на думку пра нашыя народныя казкі. Вось арыгінальны пачатак казкі, звонкі і выразны:

*Негде, в тридевятом царстве,*
*В тридесятом государстве,*
*Жил-был славный царь Дадон.*
*Смолоду был грозен он*
*И соседям то и дело*
*Наносил обиды смело;*
*Но под старость захотел*
*Отдохнуть от ратных дел*
*И покой себе устроить.*

І пераклад Якімовіча, дзе памер захоўваецца, але змяняецца настрой — з бадзёра-рытмічнага на запаволены, меладычны:

*Недзе ў краі трыдзявятым,*
*Дзесьці ў царстве*
*трыдзясятым*
*Жыў быў слаўны цар Дадон.*
*Змоладу быў грозны ён.*
*І суседзяў то, бывала,*
*Крыўдзіў войнамі нямала,*
*А пад старасць пажадаў*
*Адпачыць ад ратных спраў.*

Ілюстрацыі да казкі, выкананыя В. Максімовічам, таксама маюць адметнасць: яны ствараюць падвойны свет — разгортваюцца падчас чытання ў дадатковыя старонкі. Так, спачатку вы бачыце, напрыклад, слаўны горад цара Дадона — і ўжо затым, адгарнуўшы патаемную старонку, — самога цара. Афармленая такім чынам, «Казка пра залатога пеўніка» да апошняга захоўвае таямніцу, і чытаць яе будзе цікава і вам, і вашым дзецям.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# Раство без тэрміну даўнасці

Новы год даўно мінуў, Каляды мінулі, нават Стары і кітайскі Новы год засталіся ва ўспамінах. Але гэта не значыць, што казку Юі Віслaндэр «Мама Му, Крумкач і Каляды» трэба адставіць на паліцу і забыцца пра яе да наступных зімовых святаў.

Бо святы ў гэтай казцы – толькі антураж, прыемная атмасфера, да якой можна звяртацца час ад часу, каб папоўніць сілы, растрачаныя ў будні. Атмасферу гэтую стварае мастак Свэн Нурдквіст: кантрасты зімовай шэрані і цёплага, хатняга святла, залатыя агеньчыкі ў густой хвоі, безліч дробязей, якія можна вывучаць цэлы вечар і так і не дайсці да канца казкі. Зрэшты, дзеці вам гэтага не дазволяць.

Калі ж забыцца на святы, мы ўбачым гісторыю пра панурага самотніка, які сам сабе дорыць падарункі і сам сябе віншуе са святамі. Пазбаўлены цеплыні сяброўства, ён робіцца нудным і вечна раздражнёным. Ён дакладна ведае, каму і што належыць рабіць.

У супрацьвагу яму — архетыпічная Мама Му, шырокая душа, якая прыйдзе на дапамогу кожнаму, — дай толькі намёк, што дапамога патрэбная.




Так на Калядах адбываецца цуд. Сэрца крумкача, зледзянелае на самоце, растае: «Вой, як светла! І нават няма цяплей! Кар! Сапраўды цяплей!» Магчыма, назва «Мама Му, Крумкач і Раство» пасавала б гэтай казцы больш. Але так ці інакш, не ў назве сэнс.

**Наста ГРЫШЧУК**

*Кнігі прадастаўленыя крамай «Кнігарня пісьменніка» (вул. Казлова, 2).*

*Юбілеі*

# Сіла зямлі самой

«10 сакавіка 2015 года спаўняецца 150 гадоў з дня нараджэння паэта-самавучкі Старога Уласа. Лічу, што гэта быў смелы і мужны чалавек, сапраўдны патрыёт роднай беларускай зямлі. Вядома, што царскія ўлады забаранялі вывучэнне беларускай мовы, не было як такой Беларусі, а быў Паўночна-Заходні край. Нягледзячы на гэта, Стары Улас у пачатку XX стагоддзя пісаў свае сціплыя творы на роднай беларускай мове. <...>

На творы Старога Уласа звярталі ўвагу класікі беларускай літаратуры М. Багдановіч і М. Гарэцкі. Значыць, яны былі нечага вартыя і мелі цікавасць для чытачоў і выдаўцоў».

*З ліста ўнука Старога Уласа Герарда Сівіцкага*

У 1990 годзе выдадзены невялікі зборнік твораў Старога Уласа (Уладзіслава Сівога-Сівіцкага), падрыхтаваны Вячаславам Рагойшам. Кніга «Год беларуса» складаецца з трох раздзелаў: вершы, вершаваныя апавесці, публіцыстыка. Многія творы з'яўляюцца апрацоўкай фальклорных сюжэтаў.

Найбольш цікавымі сёння падаюцца гумарыстычныя творы Старога Уласа, якія маглі б выдатна гучаць на свяце ў Малых Аўцюках ці на ўроку беларускай літаратуры першага красавіка. Сур'ёзная, высокая, меланхалічная паэзія шануецца нібыта больш за вершаваныя анекдоты, — але добры жарт працягвае выклікаць усмешку незалежна ад модных тэндэнцый у літаратуры. Да такіх твораў можна аднесці вершы «Мода», «З кутка праўды», «Каму што».

*Вясна хароша для паэта,*
*Ці, як там кажуць, песняра.*
*Для хлебароба будзе гэта*
*Несамавітая пара.*

Аўтар слушна тлумачыць сваю тэзу тым, што «ані бэзу, ні язміну / ніяк не ўкрышыш у гаршчок».

Праблемы, да якіх звяртаўся Стары Улас, засталіся на дзіва жывучымі. Так, у вершы «Прыгавор» земскі прапануе сялянам закрыць манапольку і стварыць сельскі банк узаемадапамогі. З ім пагаджаюцца, сход вырашае пра тракціры і піўныя — «Каб іх і звання не было!», але ў выніку вяскоўцы пачынаюць піць ляшчэ горш.

«Наш беларускі народ мае добрае сэрца, але нямашка добрага даводу: ён прывыкшы, каб яго папхнуць, панукаць, а тады ён возьмецца з усяе сілы. Хоць са стыдом трэба прызнацца, што на добрыя рэчы трэба прынукі, а на благія дык людзі самі як мухі да мёду ліпнуць», — разважае Стары Улас у допісе ў «Нашу Ніву».

Максім Гарэцкі ў «Гісторыі беларускай літаратуры» ацэньваў мастацкі набытак гэтага аўтара наступным чынам: «Яго творы цэнны для нас і арыгінальны тым, што паказваюць, як творыць сам народ. Нічога інтэлігентнага ў іх няма, яны й не вельмі часам складны, але чуецца ў іх сіла самой зямлі, беспасрэдны павеў самога жыцця беларускай вёскі». Паводле М. Гарэцкага, такія аўтары, як Стары Улас, значныя тым, што яны «не толькі «з народа», але і «сам народ». Калі творчасць больш выкшталцоных паэтаў адгукаецца ў аматарскіх вершах, гэта, безумоўна, сведчыць пра запатрабаванасць літаратуры, выяўляе культурны і духоўны патэнцыял нацыі. Нескладаныя аматарскія вершы — заўсёдная з'ява літаратурнага жыцця. І калі ў такіх творах ёсць добры жарт ці іранічная заўвага, яны і сёння выклікаюць цікавасць!

**Янка НАТАВЕЦ**

*Асабістае*

# Залатое каханне

**Уладзімір і Людміла Навумовічы святкуюць залатое вяселле. Яны зноў прызнаюцца адно аднаму ў каханні і абменьваюцца залатымі пярсцёнкамі ў ЗАГСе. І ў Белдзяржуніверсітэце Навумовічы навідавоку.**

Уладзімір Аляксандравіч — дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ, кандыдат філалагічных навук. Людміла Арсеньеўна — былы вядучы інжынер і кіраўнік аддзела патэнтна-вынаходніцкай працы навукова-даследчай часткі БДУ, а сёння салістка хору супрацоўнікаў БДУ «Родніца». Днямі з друку выйшла новая кніга Уладзіміра Аляксандравіча пад назвай «"НЕ", і як яго сказаць». Жыццё галоўнага героя руйнуецца разам з каштоўнасцямі савецкай эпохі, аднак на душы цёпла ад таго, што каханая не сказала яму «не». Уладзімір Навумовіч назывaе кнігу сваім «Ціхім Донам»: яму, як і галоўнаму герою гэтага рамана, калісьці прыходзілася адстойваць свае пачуцці і нават змагацца за каханую.

Людміла Арсеньеўна дагэтуль захоўвае паштоўку, у якой Уладзімір Аляксандравіч віншуе яе з шаснаццацігоддзем. Колькі сябе памятае, са школьных гадоў спявала на сцэне. Яе голас адразу заўважыў У. Навумовіча, які з сям'ёй перайшоў у школу, дзе вучылася Людміла. З таго часу яны заўсёды былі на сцэне разам: яна спявала, а ён чытаў вершы.

Калі Уладзімір Аляксандравіч настойваў, каб жонка скончыла кансерваторыю, тая не паслухалася. Цяпер, калі выраслі дзеці і вольнага часу пабольшала, Людміла Арсеньеўна плённа займаецца спевамі. Некалькі разоў на тыдзень наведвае рэпетыцыі хору супрацоўнікаў БДУ. У яго складзе пабывала ў Германіі, Нарвегіі, Турцыі, Італіі, Македоніі, Балгарыі ды іншых краінах свету.

Сёння Уладзімір Аляксандравіч — першы госць на канцэртах хору «Родніца». А Людміла Арсеньеўна — першы чытач яго кніг. Жонка нават дала назву аповесці У. Навумовіча «Такое бывае аднойчы», напісанай пра іх каханне і выпушчанай асобнай кніжкай.

— Я заўсёды ведаю, над чым працуе мой муж, якія творчыя задумкі выношвае, — прызнаецца Людміла Арсеньеўна. — У першыя гады нашага знаёмства ён падарыў мне шмат паэтычных зборнікаў, якія берагу па сёння.



Пасля заканчэння хімічнага факультэта БДУ Людміла Арсеньеўна працавала ў Інстытуце фізіка-арганічнай хіміі АН Беларусі. Затым — на сталічным заводзе «Калібр». Уладзімір Аляксандравіч на той час быў аспірантам БДУ, ленінскім стыпендыятам. У дэлегацыю ЦК ВЛКСМ ад Беларусі на IV сустрэчу савецкай і амерыканскай моладзі ў Чыкага (ЗША) у 1975 годзе У. Навумовіч быў уключаны як малады кандыдат навук, сакратар камітэта камсамола БДУ. Ды і Людміла Арсеньеўна часта ездзіла на навуковыя канферэнцыі ў Ленінград і Маскву, калі пасля заканчэння Інстытута патэнтазнаўства ў Маскве перайшла працаваць у аддзел патэнтна-вынаходніцкай працы НДЧ БДУ. Знаёмілася з іншымі навукоўцамі, цікавілася новымі вынаходніцтвамі.

Дочкі Навумовічаў, Наталля і Таццяна, скончылі музычную школу па класе фартэпіяна. Наталля паступіла ў медыцынскі ўніверсітэт, стала стаматолагам. Таццяна, выпускніца юрыдычнага факультэта БДУ, каля 20 гадоў працавала ў гарадской калегіі адвакатаў, а цяпер выкладае канстытуцыйнае права і канстытуцыйна-прававую абарону асабістай недатыкальнасці на кафедры канстытуцыйнага права юрыдычнага факультэта БДУ. Прыклад сумеснага жыцця бацькоў стаў арыенцірам для дзяцей. Старэйшая выхавала дзвюх дачок, у малодшай — два сыны.

Старэйшыя ўнукі Уладзіміра Аляксандравіча і Людмілы Арсеньеўны — студэнты БДУ: Валерыя сёлета заканчвае аддзяленне рамана-германскіх моў філалагічнага факультэта, Максім — першакурснік факультэта міжнародных адносін. 13-гадовая ўнучка Таццяна цікавіцца літаратурай, піша вершы. Яе першы паэтычны зборнічак называецца «Музыка вясны». А ўнук Дзяніс вучыцца ў школе з эстэтычным ухілам, добра спявае.

Уладзімір Аляксандравіч жартуе, што не памятае сябе нежанатым. А Людміла Арсеньеўна упэўнена: замуж варта выходзіць, толькі калі кахаеш.

**Ганна ЛАГУН**

# У Гогаля дома

**Гісторыя пра тое, як я перастаў баяцца і палюбіў маскоўскія кнігарні.**

Амаль у самым цэнтры Масквы, недалёка ад знакамітай Пакроўкі, на вуліцы Казакова, у стройным шэрагу шматпавярховак уперамешку з невысокімі дамкамі горда выступае будынак даволі вядомага «Гогаль-цэнтра». Стаіць ён там яшчэ з дарэвалюцыйных часоў, а імя знакамітага пісьменніка атрымаў у гонар існуючага да гэтага часу Маскоўскага драматычнага тэатра імя М. В. Гогаля. Менавіта дзякуючы ўдасканаленню будынка да «Цэнтра» (што сталася для тэатра грандыёзным скандалам) ён атрымаў некалькі бонусных прыбудоў. Цяпер у фае тэатра красуецца неонавая шыльда «BOOKS».

Калі я ўвайшоў у тэатр, мяне аглушыў барабанны марш. Каля параднага ўвахода тэатральная трупа, з усімі дэкарацыямі, рэпеціравала нейкую пастаноўку, недалёка знаходзіліся музыканты, насупраць, на мяккай канапе, сядзеў кіраўнік дзеяства. Проста ў холе тэатра. Дзверы кнігарні знаходзіліся адразу за акцёрамі і музыкамі, але ўвагі на мяне ніхто не звярнуў. Так я зразумеў, што сваёй прысутнасцю не парушаю творчую гармонію рэпетыцыі.

Чаму я абраў менавіта гэтую краму? Па-першае, «Гогаль-Books» знаходзіцца ў цэнтры горада, які ўздоўж і ўпоперак запоўнены ўнікальнымі будынкамі. Знайсці штосьці цікавае тут значна прасцей. Другое, што мяне прыцягнула, — вельмі арыгінальная назва, пра якую я даведаўся крыху раней, чым пазнаёміўся з цэнтрам.





*Інтэр'еры маскоўскай кнігарні «Гогаль-Books»*

Трэцяе — вініл. Аказалася, што крама працуе не па стандартным графіку: калі ў тэатры няма спектакляў — з 12.00 да 20.00. А ў дні, калі ў будынку цэнтра праходзяць пастаноўкі ці канцэрты, кнігарня не зачыняецца да апошняга наведвальніка.

Так, адарваўшы позірк ад тэатральнай трупы, я зайшоў у краму.

Са мной павітаўся прадавец, які быў адзіным насельнікам кнігарні. Утульны інтэр'ер, аздоблены ў цёплых аранжавых тонах, са стэлажамі з коркавага дрэва. У куце памяшкання — часопісны столік і крэсла-кропля, на якім можна адпачыць у кампаніі аб'ёмнай тэатральнай брашуры або рэдкага часопіса. Дарэчы, галоўнае адрозненне «Гогаль-Books» ад іншых кніжных крам — вялікі выбар рэдкіх замежных часопісаў, накшталт «Gentlewoman», «San Rocco» і «Colors». Усе часопісы, расійскія ў тым ліку, маюць даволі сціплыя кошты.

Праслухоўванне музыкі на вініле зноў уваходзіць у моду. У «Гогаль-Books» можна падабраць калекцыю кружэлак поп-выканаўцаў, рок-музыкі, а таксама класікі, як акадэмічнай, так і джаза, блюза. Ад Мадоны да Aerosmith.

Натуральна, кнігі тут таксама ёсць. У асноўным гэта творы класікаў рускай і замежнай літаратуры, нон-фікшн, пісьменнікаў-бітнікаў і прадстаўнікоў пакалення X. Тут складана знайсці нешта рэдкае і арыгінальнае, але кошты на кнігі таксама радуюць. Любое выданне каштуе ў сярэднім на 30 — 50 тысяч беларускіх рублёў танней, чым у мінскіх крамах. Аднак кнігарня пакіне прыемныя адчуванні, нават калі вы нічога там не набудзеце.

**Яўген СІНІЧЭНКА, фота аўтара**

# Каб прыгожым свет зрабіць

**У Санкт-Пецярбургскім пісьменніцкім выдавецтве «Дума» ў кніжнай паэтычнай серыі журналіста і пісьменніка Аляксандра Ракава выйшаў чарговы, адзінаццаты па ліку, том выбранай рускай і рускамоўнай паэзіі свету.**

У ім шырока прадстаўлена класічная і сучасная паэзія Расіі, а таксама блізкага і далёкага замежжа, у перакладзе на рускую мову. Усяго — 700 паэтаў, каля 2 000 вершаў.

Публікуюцца таксама звесткі пра нараджэнне і месца жыхарства прадстаўленых паэтаў, даецца фота. Паводле аўтара-ўкладальніка, ён выбірае для сваіх кніг вершы, якія «з'яўляюцца духоўным пажыткам для тых, хто шукае праўду», тых паэтаў, якім «прыадкрыты Боскі дар мяняць сваім словам душы і лёсы іншых людзей».

Можна толькі ўявіць, якую вялізную работу правёў укладальнік, вышукваючы высокае паэтычнае слова ў моры сусветнай рускамоўнай паэзіі.

Адзінаццаты том серыі пацвярджае, што Беларусь адметная і прыцягальная паэтычная краіна. У зборніку прадстаўлены выбраныя вершы шэрагу нашых паэтаў: А. Аўруціна, А. Агінай, П. Броўкі, А. Герашчанкі, Т. Дашкевіч, А. Жданава, Г. Кісялёва, Я. Купалы, Т. Лейка, Ф. Мысліцкага, М. Пазнякова, В. Паліканінай, Д. Радзівончыка, Ю. Сапажкова, Э. Скобелева, А. Скарынкіна, Б. Спрынчана, М. Стрыгалёва, М. Танка, Н. Татур, А. Тропіна.

Кніга выдадзена па культурна-асветніцкай праграме Санкт-Пецярбургскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі.

**Павел КУЗЬМІЧ**

*Праекты*

# Музыкант чытае

**Чарговая сустрэча дабрачыннага праекта «Чалавек Чытае», скіраванага на дапамогу хворым дзецям, прайшла ў сталічным рэстаране «Тусэ».**

Вечарыны дабрачыннай праграмы «Чалавек Чытае» пачаліся яшчэ летась. Арганізатар заявіў тады, што ўсяго пройдзе шэсць сустрэч з таленавітымі і вядомымі ў нашай краіне людзьмі. Гэтым разам галоўнай дзеючай асобай і апавядальнікам стаў лідар беларускага гурта «J:Морс» Уладзімір Пугач. Музыка з'яўляецца таксама паслом добрай волі ЮНІСЕФ у нашай краіне.

Уладзімір, дапіўшы каву, уладкаваўся насупраць гасцей і пасля прадстаўлення ды кароткай агаворкі «Паколькі праект называецца «Чалавек Чытае», мне трэба даказаць, што я ўмею чытаць» пачаў знаёміць прысутных са сваім любімым урыўкам.

«Мой дарагі ўнук, я не хацеў бы, каб гэты калядны ліст гучаў занадта павучальна, у духу Дэ Амічыса, і прапаведаваў бы любоў да нашых бліжніх, Радзімы, чалавецтва і таму падобных рэчаў». Такім чынам, разам з Умберта Эка музыкант адкрыў сустрэчу.

«Кніжная» тэматыка, як і задумвалася арганізатарамі, пераважала на сустрэчы. У фармаце «пытанне — адказ» Уладзімір распавёў пра эвалюцыю сваіх літаратурных прыхільнасцей: ад казак народаў свету і роднага Палесся, літаратуры пра жывёл, навукова-папулярнай фантастыкі і прыгодніцкіх раманаў — да спазнання свету, кніг Макіявелі, Гумілёва і Фергюсана, якога чытае зараз.

«Мне падабаецца, што людзі маштабу Умберта Эка могуць сфармуляваць думку даходліва, проста выкарыстоўваючы такія яркія «няхітрыя» вобразы, — прызнаўся музыка. — Пры гэтым мне не прыйшоўся да душы папулярны сёння Оруэл — занадта ўжо відавочна выяўлена дабро і зло. У жыцці так не бывае».

Праект «Чалавек Чытае» — шэраг сустрэч, на якіх людзі гутараць пра літаратуру, агучваюць урыўкі з любімых кніг альбо твораў, якія паўплывалі на іх жыццё. Арганізатарамі праекта выступаюць Міжнародны дабрачынны фонд дапамогі дзецям «Шанс», кнігарня «Сундучок детских книг», а таксама Літаратурны клуб «Сундучок».

Уваходным квітком на мерапрыемства з'яўляецца квітанцыя аб пералічэнні грошай на рахунак дабрачыннага фонду «Шанс» — усе сабраныя сродкі ідуць на лячэнне дзяцей.

**Яўген СІНІЧЭНКА**

*Імпрэза*

# За межы сумнага белліту!

**У Літаратурным музеі Петруся Броўкі стартаваў новы мультымедыйны праект «Чытаем сваё. Класіка», ініцыяваны музеем і парталам *Velvet*.**

Школьнікам, студэнтам і ўсім жадаючым прапануецца зірнуць на гісторыю беларускай літаратуры шырэй, чым прапануюць школьная і ўніверсітэцкая праграмы. Кіраўнікі праекта — журналістка, выкладчыца Ганна Севярынец і Таццяна Ткачова.

А сапраўды, хопіць сумаваць над старонкамі беларускай літаратуры! Менавіта з такой думкай госці прыйшлі на першую вечарыну праекта, прысвечаную асобе і творчасці Максіма Багдановіча.

Паэты Андрэй Фаміцкі і Алесь Емяльянаў-Шыловіч пранікліва чыталі вершы беларускага класіка. Вядучая Ганна Севярынец падрыхтавала здымкі маладога Багдановіча і адзначыла, што фота класіка, якое друкуюць ва ўсіх падручніках, несапраўднае. Гледачы даведаліся, што Максім Багдановіч меў велізарныя праблемы з дысцыплінай у школе. Падчас урока, калі аднакласнікі адказвалі, ён смяяўся, і калі сам адказваў — таксама смяяўся.

А яшчэ наш класік меў бездакорны музычны слых і любіў спяваць, нягледзячы на тое, што не меў голасу. Заўсёды, калі спяваў, адбіваў рытм па левай назе. Наведвальнікі адкрылі для сябе новага Максіма!

Гэта была толькі пілотная імпрэза праекта «Чытаем сваё. Класіка». Партал *Velvet* і Літаратурны музей Петруся Броўкі запрашаюць на наступныя вечарыны.

**Кацярына СТАСЁНАК**

# Картэс. Хто ён?

**Юбілейны вечар, прысвечаны 80-годдзю кампазітара, народнага артыста Беларусі Сяргея Картэса, прайшоў у Вялікім тэатры Беларусі і адзначыўся прэм'ерай балета «Хто я?», а таксама камічнай операй «Мядзведзь».**

— Сяргей Картэс па-майстэрску валодае музычнай мовай, з імем кампазітара звязана станаўленне оперы на беларускай сцэне. Яго музыцы ўласцівая шматжанравасць і шматграннасць, — падкрэсліў першы намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Уладзімір Рылатка.

Прэм'ера балета «Хто я?» падрыхтавана менавіта да юбілейных імпрэз. У яе аснове музыка, напісаная кампазітарам да пастаноўкі «Апошні Інка» (на лібрэта Р. Рэймана і Г. Эрэра). Сусветная прэм'ера адбылася ў 1990 годзе на сцэне залы імя Гарсія Лоркі Вялікага тэатра Гаваны. Створаны па замове Нацыянальнага балета Кубы і яго мастацкага кіраўніка Алісіі Алонса, балет Сяргея Картэса распавядаў пра лёс народа інкаў, росквіт і пагібель адной з найвялікшых імперый.

Як паведамілі харэографы-пастаноўшчыкі спектакля «Хто я?» народны артыст Беларусі Канстанцін Кузняцоў і заслужаная артыстка Беларусі Юлія Дзятко, для іх гэта другая праца ў такой ролі. «Калі нам прапанавалі ажыццявіць пастаноўку балета Сяргея Альбертавіча, мы загарэліся ідэяй: вельмі спадабалася музыка», — падзяліўся Канстанцін Кузняцоў. — Але ставіць сёння спектакль пра барацьбу індзейцаў з канкістадорамі — не вельмі актуальна, таму было вырашана змяніць сюжэт. Кампазітар трактуе балет як двухактовы: у музыцы ёсць антракт і ўверцюра другога акта, але перад намі была пастаўлена задача падрыхтаваць аднаактовы спектакль: максімальна дынамічны ў межах паўгадзіны. Таму мы прыдумалі ўласную версію лібрэта, не прывязаную да індзейскай тэматыкі: існуе нейкае высокатэхналагічнае грамадства — цывілізацыя, якая зведала росквіт, але прыйшла ў занепад. Мы абстрагуемся ад канкрэтнага часу, ад пэўнага этнасу. Галоўная асаблівасць персанажаў на сцэне — уніфікаванасць, усе носяць аднолькавыя маскі. Але знаходзіцца сярод іх адзін, які рашаецца маску скінуць...»

Гэта пастаноўка пра лёс асобы ў свеце, пра абыякавасць натоўпу, пра сляпое пераймальніцтва і боязь вылучыцца з агульнай масы, пра каханне і складаныя чалавечыя ўзаемаадносіны. У пошуку ісціны, свайго твару і месца ў грамадстве галоўны герой балета так і не знаходзіць адказ на філасофскае пытанне «Хто я?» — кожны глядач мусіць адказаць сам.

У аснове сцэнічнага вырашэння балета — сінтэз класічнай і сучаснай харэаграфіі, які дапамагае па-новаму пачуць музычную партытуру С. Картэса. У гэтай музыцы, па прызнанні Канстанціна Кузняцова і Юліі Дзятко, ёсць «агонь сэрца і боль душы, запал і напружаны рытмічны нерв, які дазваляе ўтрымаць увагу слухачоў да апошняга такта».

Ідэя, прапанаваная харэографамі, апынулася надзвычай блізкай Сяргею Картэсу: «Кожны чалавек шукае сябе на працягу жыцця, але, на жаль, не ўсе знаходзяць». Па прызнанні юбіляра, да новага ён ставіцца станоўча. Адзінае, што няпроста было прыняць, — прапанаваная назва з вялізнага спіса, але ў выніку майстар пагадзіўся з пастаноўшчыкамі.

Над балетам таксама працавалі дырыжор Алег Лясун, мастак-пастаноўшчык Аляксандр Касцючэнка, мастак па касцюмах Кацярына Булгакава. Вядучыя партыі выконваюць Юрый Кавалёў і Марына Вежнавец.

Камічная опера «Мядзведзь» у арыгінальнай інструментоўцы Сяргея Картэса для вялікага сімфанічнага аркестра выйшла на вялікую сцэну ўпершыню. У 2011 годзе яна была адаптаваная для Камернай залы імя Л. П. Александроўскай і па сёння ідзе з вялікім поспехам. У новай інтэрпрэтацыі рэжысёра-пастаноўшчыка Галіны Галкоўскай опера дала слухачам магчымасць «скінуць маскі» стрыманай ветлівасці і атрымаць асалоду ад бліскучых сюжэтных калізій, славесна-інтанацыйных паваротаў і музычных вобразаў. Паводле задумы рэжысёра, «новым стала вырашэнне сцэнічнай прасторы, стылізаванай пад канец XIX стагоддзя, з водарам таго часу. Асаблівае развіццё атрымала тэма ўспамінаў галоўных герояў». У пастаноўцы бяруць удзел нязменны і цудоўна падабраны склад спевакоў-акцёраў: Станіслаў Трыфанаў (грубавата-нязграбны Смірноў-Мядзведзь), Алена Бундзелева («няўцешная» ўдава Папова), Юрый Балацько (лісլівы лёкай Лука). Дырыжор — Іван Касцяхін.



*Сцэна з балета «Хто я?-». У галоўнай ролі — Юрый Кавалёў.*

**Даведка «ЛіМа»**

**Кампазітар Сяргей Альбертавіч Картэс (1935) — аўтар дзясяткаў музычных партытур да драматычных спектакляў, пастаўленых для ТЮГа, Купалаўскага і Коласаўскага, Рускага і Маладзёжнага тэатраў: «Клоп» (паводле п'есы Уладзіміра Маякоўскага) і «Званы Віцебска» (Уладзіміра Караткевіча), «Раскіданае гняздо» (Янкі Купалы) і «Брама неўміручасці» (Кандрата Крапівы), «Апошні шанц» (Васіля Быкава) і «Крылы» (Андрэя Курэйчыка па матывах твораў Габрыэля Гарсія Маркеса) ды іншыя. Як галоўны музычны рэдактар кінастудыі «Беларусьфільм» у 1980-я, кампазітар напісаў музыку да многіх фільмаў, у тым ліку «Вазьму твой боль», «Чорны замак Альшанскі» ды інш. З 1991 па 2002 год Сяргей Картэс кіраваў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатрам оперы і балета Беларусі. Кампазітарам у творчым тандэме з лібрэтыстам Уладзімірам Халіпам напісана пяць твораў: оперы-прытчы «Джардана Бруна», «Матухна Кураж» і «Візіт Дамы», камічная камерная дылогія «Юбілей» і «Мядзведзь». Міжнародную вядомасць С. Картэсу прынеслі інструментальныя, а таксама вакальныя і вакальна-сімфанічныя цыклы на вершы Янкі Купалы і Яўгена Еўтушэнкі, Максіма Танка і Федэрыка Гарсія Лоркі, Нікаласа Гільена і Жака Ленуара.**

**Таццяна ШЫМУК**

# Што хавае легенда



*Сцэна са спектакля «Дзікае паляванне караля Стаха». У ролі Надзеі Яноўскай — Юлія Крашэўская, у ролі Андрэя Беларэцкага — Дзмітрый Каваленка.*

Зварот да творчасці Уладзіміра Караткевіча, знакавай постаці беларускай літаратуры ХХ стагоддзя, стаў для Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа добрай традыцыяй.

Пачатак гэтаму паклаў спектаклем «Вераб'іная ноч» паводле апавядання «Паром на бурнай рацэ» рэжысёр Міхась Краснабаеў. Пазней былі яго ж «Леаніды не вернуцца на Зямлю» паводле рамана «Нельга забыць», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». І вось цяпер — «Дзікае паляванне караля Стаха».

Аўтар інсцэніроўкі і рэжысёр — Юрый Лізінгевіч. Яго творчасць вызначаецца адметным бачаннем літаратурнага матэрыялу, як правіла, дыхтоўнага мастацкага ўзроўню (часцей ён звяртаецца да класікі). Жанр новага спектакля рэжысёр вызначыў не зусім як «містыфікацыю». Прыгадаем, што ў аснове сюжэтнай лініі — разблытванне галоўным героем таямніцы: цэлага шэрагу загадкавых забойстваў продкаў Надзеі Яноўскай (актрыса Юлія Крашэўская). Але жанр сцэнічнага твора — не тое самае, што сюжэт, тут істотны найперш адносіны рэжысёра да матэрыялу, інтанацыя, якая і выдае стылявую адметнасць спектакля. У гэтым выпадку акцёры вымушаны існаваць ва ўмовах фактычна пустой прасторы. Глядач бачыць толькі пласціны шэрага колеру, што вісяць у паветры і, відаць, увасабляюць фамільныя партрэты продкаў (сцэнограф Святлана Макаранка). Свабодная сцэна дае магчымасць вывесці масоўку, шырока выкарыстаць групавую пластыку, харэаграфію (балетмайстар Дзіяна Юрчанка).

Фактычна акцёр знаходзіцца ў чыста ўмоўным, знакавым асяроддзі, пазбаўленым бытавых прыкмет. Адзіны матэрыял, з якім ён працуе, — дошкі. Яны могуць быць і сценамі замка, за якімі хаваецца Надзея Яноўская, і дамавінай, куды кладуць чарговую ахвяру палявання, і крыжамі, і зброяй, увасабляюць вобраз палявання альбо ляснога гушчара. Разам з тым выканаўцам галоўных роляў надзвычай цяжка: даводзіцца працаваць пераважна праз славеснае дзеянне, што вымагае асаблівай аддачы, умелага размеркавання эмоцый і энергіі. Тут на вышыні Юлія Крашэўская, якая стварае вобраз разумнай, высакароднай шляхцянкі, унутрана надламанай, але здатнай на моцныя пачуцці. На жаль, лірычная тэма ў спектаклі прыглушана, на першы план выступае, у адпаведнасці з жанрам, дэтэктыўна-прыгодніцкая лінія. Тым не менш адчувальна, як недавер, потым прыязнасць, павага да падарожнага паступова перарастаюць у сапраўднае каханне. Дзмітрый Каваленка ў ролі Андрэя Беларэцкага адмаўляецца ад звыклага набору рыс лірычнага героя. Рашучы, валявы, ён быццам адразу ўпэўнены, што ва ўсім гэтым ланцугу забойстваў ніякай містыкі — толькі нечая зламысная воля. Герой быццам і не задумваецца, якая небяспека можа яму пагражаць. Уступаючы ў сутычку з Алесем Варонай (акцёр Арцём Блахін), А. Беларэцкі даводзіць, што яго няпроста нахіліць, за сваю годнасць і гонар жанчыны ён будзе біцца да апошняга.

Прастатой, шчырасцю і ўменнем кахаць прываблівае Андрэй Свеціловіч, сваяк Надзеі Яноўскай (акцёр Уладзіслаў Журавлёў). Артыст знаходзіць адметную, крыху нязграбную пластыку для свайго персанажа, але яго ўнутраны свет прыцягвае. І хаця роля не галоўная, яна вылучаецца на фоне астатніх. Пераканаўчы вобраз Бермана-Гацэвіча (акцёр Цімур Жусупаў), насцярожанага, палахлівага, уяўна бяскрыўднага, які ладзіць сваю «містыфікацыю» ў замку Яноўскіх. Запамінальны характар Дубатоўка стварае Віктар Дашкевіч. Для артыста гэтая роля яшчэ і юбілейная, бо прэм'ера адбылася акурат у дзень яго 70-годдзя. Пры першым знаёмстве з А. Беларэцкім Дубатоўк паўстае балакам, жартаўніком, выклікае павагу тварыскасцю, адчуваннем народнага гумару. Але на самай справе... Трэба быць тонкім артыстам, каб не толькі героі, але і сам глядач не змог здагадацца, хто ж стаіць за ўсімі злачынствамі!

У фінале спектакля гучыць знакаміты паланэз М. К. Агінскага, героі быццам вызваляюцца ад змрочнай, прыгнятальнай атмасферы замку, ад цяжару злавеснага мінулага. Ды толькі аптымістычнай канцоўкі не атрымліваецца. Цемрашальства, падступства, хцівасць, жорсткасць па-ранейшаму жывуць сярод нас…

**Юрый ІВАНОЎСКІ**

# Сяргей Пясецкі: усходнеславянскі кантэкст

**Усё ярчэй разгараецца зорка беларуска-польскага пісьменніка першай паловы XX ст. Сяргея Пясецкага (1901 — 1964). Увага да гэтай асобы прыкметна павялічылася ў апошнія дзесяцігоддзі. С. Пясецкі — герой дакументальна-мастацкіх кіна- і тэлестужак.**

Гісторыка-палітычныя катаклізмы часу штурхалі Сяргея Пясецкага, чалавека праваслаўнага веравызнання, ураджэнца Ляхавіч, на розныя жыццёвыя сцежкі. Пэўны час ён жыў у прымежным Ракаве, быў перамытнікам на беларуска-польскай мяжы: тайна пераносіў розныя тавары з Ракава ў Мінск і з Мінска ў Ракаў. Нешчаслівы выпадак прывёў С. Пясецкага за краты польскай турмы. Доўгатэрміновы прысуд абумоўлены і характарам злачынства, і тагачаснымі жорсткімі законамі, якія дзейнічалі на прыгранічнай тэрыторыі.

Пясецкі псіхалагічна ратаваў сябе, займаючы іншых вязняў аповедамі з мінулага. Выпадковая аб'ява ў польскай газеце пра конкурс для маладых літаратараў выклікала ў яго прагу да друкаванага слова. Ён пачаў актыўна давучваць польскую мову, за некалькі месяцаў, на аснове перажытага, напісаў прыгодніцкі раман пра жыццё ракаўскіх перамытнікаў «Каханак Вялікай Мядзведзіцы» (па гэтых зорках перамытнікі арыентаваліся ў часе начных пераходаў праз польска-савецкую мяжу). Рукапіс рамана паслаў на конкурс і… атрымаў дыплом I ступені! Раман надрукавалі, а праз нядоўгі час двойчы перавыдалі. Літаратурная дзейнасць дапамагла ў 1938 г. вызваліцца з турмы.

Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны Сяргей Пясецкі жыў у розных краінах Еўропы. Яго ранейшыя і новыя творы шырока перакладаліся, па іх ставіліся шматсерыйныя фільмы. Аднак лёс пісьменніка як чалавека, неспрактыкаванага ў зносінах з выдаўцамі і кнігагандлярамі, склаўся незайздросна. Памёр ён у галечы і адзіноце ў адным з лонданскіх хоспісаў. На надмагільнай пліце С. Пясецкага выбіта выява сузор'я Вялікай Мядзведзіцы.




Невялікія тыражы аповесцей С. Пясецкага разыходзяцца як гарачыя піражкі на кірмашы ў святочны дзень. Здаралася, чытачы розных сацыяльных колаў — інжынеры, урачы — абыходзілі ўсе мінскія кніжныя крамы ў пошуках твораў Пясецкага. Але прага знаёмства з прозай нашага земляка, колішняга наміната на Нобелеўскую прэмію, часта застаецца неспатоленай: мала выданняў С. Пясецкага ў перакладзе на беларускую і рускую мову. Тыя, што ўсё-такі ўбачылі свет, — заслуга некалькіх перакладчыкаў: А. Астраўцова («Запіскі афіцэра Чырвонай арміі», 2005), Ф. Янушкевіча («Каханак Вялікай Мядзведзіцы», 2009), Я. Янушкевіча («Пяты этап», 2012), Г. Бянкевіч («Человек, превращенный в волка», «К чести организации», абедзве — 2012), Р. Равякі ("Жыццё раззброенага чалавека", 2014). Некалькі ўрыўкаў з твораў пісьменніка апублікавана ў перыядычных выданнях.

Нарэшце ў айчынным літаратуразнаўстве з'явілася грунтоўная праца, прысвечаная творчасці С. Пясецкага. Аўтары — кандыдаты філалагічных навук, вядомыя літаратуразнаўцы Т. Кабржыцкая, П. Рагойша, М. Хмяльніцкі — далі свайму даследаванню выдатную назву — «Наш і не наш Сяргей Пясецкі: Зоркі Радзімы пісьменніка над колам яго жыццёвых і творчых калізій» (Мінск: Кнігазбор, 2014). Па ментальнасці, мастацкім почырку даследчыкі справядліва і доказна характарызуюць яго як беларуска-польскага пісьменніка, уводзяць нашага земляка ва ўсходнеславянскі культурны кантэкст, хоць доўгія дзесяцігоддзі ў Еўропе ён лічыўся прадстаўніком выключна польскай літаратуры.

Манаграфія разлічана як на шараговых чытачоў, так і на прафесіяналаў-літаратуразнаўцаў: паланістаў, беларусістаў, тых, хто ўзбагачае кампаратывісцкі кірунак літаратуразнаўства. Шырокія агульнакультуралагічныя развагі падмацаваны тэарэтычнымі літаратуразнаўчымі раздзеламі: «Мастацкія прыёмы стварэння вобраза Мінска як своеасаблівага акна ў Еўропу ці акна з Еўропы ў Расію» (вобраз Мінска 1920-х гадоў нагул мала выяўлены ў мастацкай літаратуры), «Рэалістычнае і рамантычнае ў падачы геаграфічнага кірунку «Мінск — Ракаў — Вільня», «Пейзажная сімволіка, сакралізацыя прыроды праз архетыпы лесу і зорнага месячнага неба»…

Улічана аўтарамі і сацыякультурная атмасфера, у якой фарміраваўся талент Пясецкага. У раздзеле «Першая сусветная вайна, яе трагічныя акалічнасці і наступствы» цікава прасочваецца тыпалогія «раскіданага роднага краю» праз аспекты твораў С. Пясецкага і М. Гарэцкага, прысвечаныя бежанству і падзеям Першай сусветнай вайны ў Беларусі. Яшчэ большай даследчыцкай смеласцю вызначаецца раздзел «Інтэгравасць мастацкага свету Пясецкага ў беларускую культурную прастору і некаторыя пытанні рэцэптыўнай эстэтыкі». Тут заслугоўвае ўвагі адкрытае ўвядзенне «мінскай трылогіі» С. Пясецкага («Яблычак», «Гляну я ў вакно», «Ніхто не дасць нам вызвалення») у кантэкст твораў Янкі Купалы, Вячаслава Дзеркача, Андрэя Федарэнкі ды інш., тэматычна і праблемна звязаных з гісторыяй Беларусі 20-х гадоў XX ст.

Пераканальна напісаныя раздзелы пра ўздзеянне рускай літаратурнай класікі на станаўленне Пясецкага як пісьменніка. У выданні ён падаецца як вучань Ф. Дастаеўскага, Л. Андрэева, А. Купрына, М. Горкага. Даследчыкі раскрываюць «бунтарскі» характар вучня, прасочваюць, што ўспрымаў С. Пясецкі, а што аспрэчваў, якой была яго матывацыя. Папярэднія (польскія) даследчыкі творчасці С. Пясецкага факт яго літаратурнай вучобы ў рускіх пісьменнікаў толькі канстатавалі. Параўнальна-тыпалагічны падыход да твораў С. Пясецкага з улікам дасягненняў рускай класікі ажыццяўляецца беларускімі даследчыкамі ўпершыню.

Кніга «Наш і не наш Сяргей Пясецкі» наватарская яшчэ па некалькіх прычынах. Так, у ёй закранаецца творчасць украінскага празаіка Міколы Хвылявога. Вядучы творца-наватар Хвылявы ў 30-я гады XX ст. быў несправядліва вылучаны з культуры Украіны, тыраж яго «эпатажнага» рамана «Вальдшнэпы» быў знішчаны. Т. Кабржыцкая, П. Рагойша, М. Хмяльніцкі так скрупулёзна прасачылі творчы шлях С. Пясецкага, што неспадзявана знайшлі многія цікавыя перагукі паміж названымі пісьменнікамі. І нават вызначылі, што С. Пясецкі цытаваў М. Хвылявога па невядомым у сучаснай Украіне тэксце! Пры разглядзе пытання «Пясецкі і польская літаратура» арыгінальна прагучалі спробы тыпалагічнага супастаўлення Сяргея Пясецкага і… Вітольда Гамбровіча.

Высвятляючы месца пісьменніка ў польскім літаратурным працэсе, беларускія даследчыкі, зразумела, абапіраліся на адпаведныя публікацыі польскіх літаратуразнаўцаў Р. Дэмеля, К. Паляхонскага ды інш., якія пачалі адкрываць С. Пясецкага яшчэ ў апошняй чвэрці мінулага стагоддзя. Улічылі нашы аўтары і найноўшыя польскія выданні.

Кніга выдатна чытаецца, выверaная стылёва, навукова. Відаць, у гэтым заслуга і навуковага рэдактара — прафесара В. Рагойшы. Да таго ж выданне ілюстравана фотаздымкамі. Дзякуючы новай манаграфіі ўзбагаціліся беларускія літаратуразнаўчыя абшары, а таксама ўмацаваліся беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі.

**Алена ВОСТРЫКАВА**

# Анархіст ці рамантык?

**«У Беластоку кнігі Сяргея Пясецкага паўсюль: у кніжных крамах, шапіках, на вуліцах, ля вакзала. Калі ў Польшчы пісьменніка друкуюць — значыць, ёсць каму яго чытаць. І да Пясецкага сёння ставяцца з незвычайнай зацікаўленасцю», — распавёў Яраслаў Лаўскі — доктар габілітаваны, прафесар Беластоцкага ўніверсітэта. На Беларусі гэтага польскамоўнага аўтара ведаюць менш — затое ў айчынным літаратуразнаўстве ўжо з'явілася першая манаграфія, прысвечаная творчасці Сяргея Пясецкага. Прэзентацыя выдання адбылася на міжнародным навуковым семінары «Асоба і творчасць С. Пясецкага ў дыялогу культур і літаратур» на філалагічным факультэце БДУ.**

«Сяргей Пясецкі цікавы для мяне як жывапісец краю, краіны і шырэй — як летапісец, які распавядае пра асяроддзе і час. Ва ўласным бачанні, апісанні, разуменні. Калі я бяру знаёмую мне праекцыю мяжы, памежжа, я хачу зразумець не толькі памежжа геаграфічнае, не толькі правінцыйнае, але і памежжа маральнае. Гэта мяжа дабра і зла, чалавека і бесчалавечнасці. У гэтым шырокім плане я і настроены ўспрымаць творчасць пісьменніка».

**Іван Чарота, доктар філалагічных навук, прафесар**

«Творчасць Сяргея Пясецкага дапамагае зразумець складаныя моманты ў беларускай і польскай гісторыі, зразумець тое, што нас аб'ядноўвае», — адзначыла ў прывітальным слове дырэктар Польскага Інстытута спадарыня Уршуля Дарашэўская. На пачатку семінара пра кнігу «Наш і не наш Сяргей Пясецкі» расказалі яе аўтары: Таццяна Кабржыцкая, Пётр Рагойша, Мікола Хмяльніцкі. Па словах Т. Кабржыцкай, беларускія паланісты маюць вельмі цікавы погляд на развіццё польскай літаратуры.

«Было крыўдна, недаравальна, што творчасць Сяргея Пясецкага разглядаецца толькі ў кантэксце польскай літаратуры, — зазначыў Пётр Рагойша. — Выходзячы выключна з польскага кантэксту, даследчыкі не змаглі засяродзіць увагу на ўсходнеславянскіх фактарах сталення гэтага пісьменніка як аўтара і чалавека.

Сяргей Пясецкі — вельмі супярэчлівая асоба. Ён здзейсніў каля сотні забойстваў, больш як чатырнаццаць гадоў правёў у турмах трох краін. Разам з тым ён вельмі цаніў тое, што яго акаляла, і яго проза — выключны выпадак, калі паэтызуецца і дасканала апісваецца прастора беларуска-польскага памежжа. У інтэрв'ю брытанскаму журналісту пісьменнік сказаў, што выконваў працу гісторыка і археолага для сваіх сучаснікаў, раскопваў напаўзабытыя жыццёвы перыяд».

Меркаванні пра творчасць Сяргея Пясецкага выказалі запрошаныя на семінар беларускія літаратуразнаўцы. Прафесар Міхась Тычына выявіў падабенства між кантрабандысцкім лёсам пісьменніка і многіх іншых жыхароў беларускага памежжа. Малады даследчык Алесь Бразгуноў звярнуў увагу на антыбальшавізм прозы С. Пясецкага: «У яго творах бальшавізм — гэта штосьці супрацьпастаўленае прыродзе чалавека. Зладзейскі свет грахоўны і амаральны, але мае свой кодэкс, які свята шануецца. Злодзей ведае, што будзе пакараны за парушэнне вядомых яму правілаў, а савецкі грамадзянін можа нават не здагадвацца пра небяспечнасць сваіх выказванняў ці ўчынкаў». Выступоўцы неаднойчы звярталіся і да пытання працяглай недаступнасці твораў С. Пясецкага для айчыннага чытача.

Асобная частка семінара — праблемна-тэматычныя выступленні. Даклады агучылі прафесар з Гродна Святлана Мусіенка і дацэнт БДУ Ірына Багдановіч. Выступленне доктара філалагічных навук з Беластока Ганны Яніцка было прысвечана жаночым вобразам у творах С. Пясецкага. Яго персанажы жывуць у свеце свабоды і злачынстваў, але жанчына насуперак канцэпцыі рамантычнай гераіні звычайна вольная ў выбары адносін з мужчынамі.

Захапіла аўдыторыю выступленне Яраслава Лаўскага, які акрэсліў месца Сяргея Пясецкага ў польскім літаратуразнаўстве. Гэтага аўтара лічаць адным з першых авантурыстаў у польскай літаратуры, стваральнікам міфа «добрага злодзея», рамантыкам і, бясспрэчна, «пісьменнікам поспеху». Польскія даследчыкі прызнаюць прыроджаны талент Пясецкага, але не адносяць яго прозу да высокамастацкай, вышукалцонай літаратуры. Я. Лаўскі выказаў і ўласны погляд на творчасць гэтага аўтара: С. Пясецкі — гэта бунтар пачатку XX стагоддзя, пісьменнік-анархіст, дакладна не з эпохі рамантызму!

Госці і запрошаныя студэнты прагледзелі фрагмент фільма пра творчасць і жыццё Сяргея Пясецкага, а таксама пазнаёміліся з тэматычнай камп'ютарнай прэзентацыяй.

**Алеся ЛАПЦКАЯ**

*Літаратурная геаграфія*

# Адкрыццё іншасвету

**Марыю Кобец, якая жыве і працуе на Піншчыне, добра ведае чытач «ЛіМа». Вершы таленавітага аўтара прыцягваюць, палоняць яркімі вобразамі, параўнаннямі, цеплынёю. Паэтэса адкрывае для сябе і іншыя сусветы. Сярод яе перакладчыкаў на рускую мову — маскоўская і адначасова беларуская, мінская паэтэса Любоў Турбіна. А яшчэ сярод творчых памкненняў і зацікаўленняў Марыі Кобец — Сербія, сербская літаратура. Пра гэта і пойдзе гаворка.**

**— Марыя, вы нядаўна пабывалі на паэтычным фестывалі ў Сербіі... Чаму менавіта там? І што гэта за фестываль?**

— Так сталася, што напрыканцы леташняга мая па запрашэнні маскоўскіх пісьменнікаў я брала ўдзел у міжнародным фестывалі славянскай паэзіі «Поющие письмена», які ладзіўся ў Цвяры. Удзельнічалі ў ім паэты і пісьменнікі з дзесяці краін свету, у тым ліку і аўтарытэтная дэлегацыя з Сербіі. Падчас фестывалю ў мяне завязаліся сяброўскія стасункі з яе прадстаўнікамі. Таму, атрымаўшы ад Саюза пісьменнікаў Сербіі запрашэнне да ўдзелу ў такім прэстыжным мерапрыемстве, як Бялградскія міжнародныя сустрэчы, я ні хвіліны не вагалася наконт таго, ці ехаць туды.

Ужо больш як паўстагоддзя Саюз пісьменнікаў Сербіі праводзіць адно з традыцыйных і найбольш прэстыжных мерапрыемстваў, прысвечаных літаратуры, на Балканах. За час правядзення гэтых сустрэч разам з выбітнымі пісьменнікамі Сербіі ў іх удзельнічала звыш паўтары тысячы мастакоў слова з усяго свету, сярод якіх было і дзесяць лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі. Таму, безумоўна, асабіста для мяне ўдзел у такім маштабным мерапрыемстве — вялікі гонар. Сама атмасфера настройвае на адметны лад.

**— Ці адрозніваецца сербскі творчы праект ад беларускіх пісьменніцкіх сустрэч? Што ўразіла найбольш?**

— Практычна не адрозніваецца, хіба толькі маштабнасцю. На працягу тыдня ў межах фестывалю ладзіліся шматлікія літаратурныя вечары, «круглыя сталы», дыскусіі, прэзентацыі, абмеркаванні… Канечне ж, паўсюдна гучала жывое паэтычнае слова. Прычым на самых розных мовах. У Бялград з'ехаліся 32 удзельнікі з 21 краіны свету, каб падчас шматлікіх мерапрыемстваў прэзентаваць сваю творчасць не толькі ў сталіцы краіны, але і ў такіх гарадах, як Крагуевац, Пажаравац, Біеленэ, Лазніцу, а таксама ў гарах Златыбора. Вось гэта відавочная адметнасць. У праграме ўзялі ўдзел паэты і пісьменнікі Азербайджана, Вялікабрытаніі, Грэцыі, Канады, Македоніі, Германіі, Польшчы, Румыніі, Расіі, Славакіі, Славеніі, Францыі, Харватыі, Чэхіі ды іншых краін.



*Марыя Кобец са старшынёй Саюза пісьменнікаў Сербіі Радамірам Андрычам.*

Найбольш уразіла, што, нягледзячы на моўныя бар'еры, усе ўдзельнікі фестывалю разумелі адзін аднаго. А яшчэ захапілі маляўнічыя краявіды краіны, гасціннасць і ветлівасць на дзіва простых і шчырых людзей — сербаў. І, канечне ж, шмат што іншае: культура, менталітэт, стравы — усё было для мяне новым. А самае дзіўнае — на вуліцах Бялграда амаль на кожным кроку мне прапаноўвалі купіць… школьныя падручнікі! Калі пазней я патлумачыла сваім сербскім сябрам, што для мяне гэта нязвыкла, бо ў Беларусі падручнікі амаль бясплатныя, здзіўленне ўжо чыталася на іх тварах. Асабліва ж прыемна, што пісьменнікі з розных краін свету з павагай ставяцца да Прэзідэнта нашай краіны Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. Сэрца перапаўняла незвычайнае пачуццё гонару за сваю дзяржаву.

**— Ці даў гэты фестываль поўнае ўяўленне пра развіццё літаратуры ў Сербіі ўвогуле?**

— Для мяне, чалавека, які толькі-толькі дакранаецца да неахопнага сусвету сербскай літаратуры, адказаць на гэта пытанне пакуль цяжка. І ўсё ж уяўленне, якое даў не толькі бялградскі фестываль, але і той, што ладзіўся напрыканцы вясны ў Цвяры, канечне, ужо ёсць. Менавіта з таго часу я пачала па драбніцах вывучаць сербскую мову і знаёміцца з творамі сербскіх літаратараў.

**— Як вы лічыце, з чым, з якімі ідэямі варта наведваць такія літаратурныя сустрэчы?**

— З канкрэтнымі прапановамі наконт творчага супрацоўніцтва з літаратарамі іншых краін свету, бо толькі такія стасункі даюць магчымасці для развіцця і актывізацыі літаратурнага працэсу, адыгрываючы важную ролю ў росце нацыянальнай свядомасці.

**— А якія творчыя праекты прывезлі з фестывалю? Ці справакаваў ён вас да перакладчыцкай работы?**

— Хацелася б пачаць адразу з другога пытання. Так, справакаваў. Я, як амаль усе творчыя людзі, хачу быць пачутай — не толькі ў нашай краіне, але і за мяжой. Гэтае жаданне прымушае мяне вывучаць сербскую мову, каб перакладаць з яе і атрымліваць пераклады сваіх твораў на іншыя мовы.

Што датычыць першага пытання, пакуль баюся нешта загадваць. Магу толькі сказаць, што ўсе гэтыя праекты звязаныя з перакладчыцкай дзейнасцю. Ну, а з бялградскага фестывалю акрамя ідэй і планаў прывезла шмат кніг розных аўтараў свету. Гэтай літаратурай з задавальненнем падзялюся з усімі, хто зацікавіцца.

**— Ці напісалася што-небудзь з вершаў у Сербіі?**

— Канечне. У мяне ёсць верш, які літаральна выплеснуўся на паперу пад шквалам уражанняў, атрыманых ад наведвання гэтай незвычайна прыгожай і дзівоснай краіны.

***

*Мой ранейшы малы сусвет*
*межаваўся у фарбах зелені.*
*Віраваў, захапляў… Ды не!*
*Звыклым стаў у вячэрній цемені.*

*На шляху, што ўсцілаў быльнёг,*
*камянямі рваў болем з'едлівым,*
*Бог-мастак, толькі ж ён так мог,*
*Ён адкрыў мне раптоўна Сербію!*

*І паменеў абшар планет!*
*Бо у Моравы хвалях срэбраных*
*мне адкрыўся дзівосны свет,*
*цэлы свет пад назвам СЕРБІЯ!*

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Ноты. Словы. Лірыка.

Людміла Кебіч — паэтэса, старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Выпускніца аддзялення тэорыі музыкі Маладзечанскага музычнага вучылішча і філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Яе вершы, меладычныя, спеўныя, публікуюцца на старонках рэспубліканскай літаратурнай перыёдыкі. У ліку выдадзеных кніг — «Па музычных законах» (1996), «Зялёная рутвіца» (2001), «Ключы ад Неба» (2005), «Светач мастацтва» (2008) ды інш. Летась Людміла Антонаўна ўганаравана медалём Францыска Скарыны. З творцай гутарыць карэспандэнт «ЛіМа».

— Да ўзнагарод стаўлюся не тое што абыякава, а проста роўна і спакойна. Лічу, што яны ў нейкай ступені вызначаны лёсам і дарма не даюцца. Любую ўзнагароду, а тым больш медаль Францыска Скарыны, успрымаю як знак, пацвярджэнне таго, што іду правільна абранай дарогай, добра раблю сваю справу, патрэбную іншым людзям, што мая праца заўважана. Шчыра ганаруся іншым: тым, што ў нашай краіне ёсць такая ўзнагарода, таму што Францыск Скарына застаецца і сёння, праз 525 год, зоркаю першай велічыні на небасхіле нашай нацыянальнай культуры. Несумненна і зразумела, што атрымаць медаль, названы імем беларуса, які дасягнуў неверагодных ведаў у многіх галінах навукі і культуры, вельмі прыемна.

**— Што, на вашу думку, значыць «пісьменнік»?**

— Акрамя класічнага паняцця, лічу, што пісьменнік — гэта і той чалавек, які мае ўласны погляд на з'явы і падзеі. І гэты погляд супадае з думкамі і надзеямі людзей, народа, калі гаварыць высокім складам; пісьменнік з'яўляецца выразнікам гэтых поглядаў і думак. Таму ён павінен быць праўдзівым і адважным, справядлівым і годным, не кажу пра тое, што гарачым, свядомым і шчырым патрыётам сваёй радзімы. Ну, і, зразумела, пісьменнік павінен любіць сваю справу, не апускацца да ўзроўню чытача, не ісці ў яго на повадзе, а, наадварот, падцягваць да сваёй вышыні, выхоўваць густ, вымушаць часам па-іншаму зірнуць на тыя ці іншыя праявы жыцця. Пісьменнік — гэта не камерная, адасобленая ад свету асоба, а творчая постаць, якая і бачыць свет, і жыве па-пісьменніцку.

**— Чаму вырашылі стаць пісьменніцай?**

— Вырашыць стаць пісьменнікам не можа, напэўна, ніхто. Так атрымалася, склалася. Я нарадзілася і вырасла ў сям'і настаўнікаў, вельмі таленавітых, творчых людзей. Тата выкладаў гісторыю, пісаў карціны, граў на многіх музычных інструментах. Мама — настаўніца пачатковых класаў — пісала вершы для дзяцей, рукадзельнічала. Літаратура і мастацтва — атмасфера, якая акаляла мяне з нараджэння. Таму я марыла стаць адначасна настаўніцай музыкі і літаратуры. Настаўнікі ў школе спакваля падштурхоўвалі мяне да гэтага таксама, таму што пасля кожнага сачынення на вольную тэму або публікацыі артыкула пра школьнае жыццё ў раённай газеце адабральна падтрымлівалі мае першыя пробы пяра. Вершы пачала пісаць у першым класе. Калі вучылася ў чацвёртым, іх пачалі друкаваць у дзіцячых газетах «Зорька», «Пионерская правда». З тае пары не пакідала паэтычную творчасць, хаця былі вялікія перапынкі. Сур'ёзна ставіцца да сваіх вершаў пачала толькі недзе ў 90-я гады, пасля публікацый у рэспубліканскіх выданнях і водгукаў вядомых пісьменнікаў. І ўсё жыццё музыка і паэзія ішлі паралельна, аднак дамінавала музыка. Цяпер на першым месцы — пісьменніцкая дзейнасць.

**— Якія тэмы ў сучаснай літаратуры найбольш блізкія вам?**

— Заўсёды любіла чытаць кнігі пра гістарычнае мінулае, пра лёсы людзей і краіны ў гады грамадзянскай вайны, пра вёску і вясковае каханне, хаця сама вырасла ў гарадскіх умовах. У сучаснай літаратуры



прываблiваюць творы тых пісьменнікаў, якія, наадварот, пішуць пра з'явы сённяшнія, узнімаюць праблемы сваіх сучаснікаў, вымушаюць над імі задумацца. Але такіх твораў мала. Тым не менш уразіў раман-дылогія Уладзіміра Гніламёдава «Расія» і «Вяртанне». Лічу, што гэта сапраўдная, а магчыма, і адзіная эпапея ў Беларусі, дастаткова не прачытаная і не вывучаная. Падабаецца паэзія Ганада Чарказяна — надзвычай глыбокай «горскай» мудрасцю, дабрынёй і чалавекалюбствам.

Зусім нядаўна адкрыла для сябе паэзію Мікалая Намеснікава з Віцебска і Людмілы Клачко з Мінска, даўно захапляюся вершамі Лізаветы Палеес. Мікола Мятліцкі, Георгій Марчук, Уладзімір Саламаха, Алесь Савіцкі, нашы гродзенскія творцы Ніна Рыбік, Ала Клемянок, Галіна Самойла і шмат іншых, усіх не пералічыш… Іх творы, заўсёды актуальныя, сучасныя, а галоўнае, кранальныя, высокамастацкія, пакінулі і пакідаюць у душы добры след і глыбокі роздум.

**— З якімі выдавецтвамі найбольш актыўна супрацоўнічае Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ?**

— Тое, што сітуацыя з кнігавыданнем у краіне крыху зрушылася з месца, абнадзейвае, напэўна, усіх пісьменнікаў. Што датычыць нас, дык за мінулы год пісьменнікі Гродзенскага абласнога аддзялення выдалі 21 кнігу, з якіх 16 — у дзяржаўных выдавецтвах. Праўда, нашы аўтары дапамагалі збіраць тыраж і распаўсюджваць свае кнігі, але ж калі творы пісьменніка хутчэй трапяць у бібліятэкі ды ў рукі чытачоў, аўтару гэта будзе і на карысць, і на радасць.

Кнігі нашых творцаў друкаваліся ў Выдавецкім доме «Звязда», у выдавецтвах «Харвест», «Чатыры чвэрці», «Беларусь»... А самыя плённыя стасункі склаліся з выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», супрацоўнікі якога звярнулі ўвагу на гродзенскіх дзіцячых аўтараў: на працягу апошніх некалькіх гадоў там пабачылі свет кнігі Ганны Скаржынскай-Савіцкай, Віктара Кудлачова, Таццяны Сучковай, а таксама дзве мае кнігі для падлеткаў. Мы вельмі ўдзячны калектыву выдавецтва і спадзяёмся на далейшае супрацоўніцтва.

**Яна ЯВІЧ**

# Патэнт на хараство


Фота Кастуся Дробава

Паветраны вінт.

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Існуюць і спрэчныя моманты ў дачыненні да аўтарства некаторых чарцяжоў. Напрыклад, знойдзены сярод рукапісаў Леанарда малюнак веласіпеда. Некаторыя вучоныя лічаць, што гэты эскіз мог быць выкананы адным з маладых вучняў да Вінчы па імені Салаі, які скапіраваў арыгінальную ідэю майстра і яго малюнак. Па сутнасці, імя вучня — адзінае слова на эскізе. Аднак апошнія даследаванні паказалі, што хутчэй за ўсё гэтая работа з'яўляецца падробкай, выкананай у XX стагоддзі, і варта лічыць, што Леанарда ўвогуле не спрабаваў вынайсці веласіпед. На малюнку адсутнічалі тыповыя для работ творцы тлустыя, яркія лініі, бачныя на адваротным баку ліста. Таксама было ўстаноўлена, што эскіз выкананы графітам, які быў вынайдзены праз дзесяцігоддзі пасля смерці да Вінчы.

## ВАЕННАЯ ТЭХНІКА

Леанарда быў пацыфістам, але жыў у часы, калі большасць італьянскіх гарадоў былі ў варожых адносінах адзін з адным і з суседняй Францыяй. Па гэтай прычыне багатыя заступнікі майстра былі больш зацікаўлены ў ваеннай тэхніцы, чым у жывапісе. Пастаянныя войны патрабавалі новых распрацовак. Самымі значнымі вынаходствамі Леанарда былі менавіта яго ваенна-інжынерныя збудаванні.

Некаторыя з яго ранніх праектаў вельмі практычныя і простыя па сваёй канструкцыі, як, напрыклад, часовы падвесны мост і лесвіца для аблогі крэпасці. Больш познія работы Леанарда сканцэнтраваны на распрацоўцы абарончых і наступальных стратэгій: удасканаленая артылерыя, гарматныя лафеты, бамбамёты, чарцяжы мнагаствольнага кулямёта, пушкі, катапульты, гіганцкага арбалета, браніраванага фургона, аснашчанага косамі, і браніраванай машыны, прататыпа сучаснага танка.

Акрамя пералічаных вышэй экспанатаў, у залах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі знаходзяцца акваланг, лятальны


Фота Кастуся Дробава

Колавая лодка.

апарат, парашут, падводная лодка, адаметр, скіфская калясніца, архімедаў вінт і многія іншыя вынаходніцтвы XV стагоддзя. І гэта далёка не ўсё, што ўбачаць наведвальнікі. Экспазіцыя «Вынаходніцтвы да Вінчы» прадстаўляе рукапісы майстра і яго нататкі па анатоміі.

Галоўныя адметнасці выстаўкі, на якія абавязкова варта звярнуць увагу: па-першае, экспазіцыя раскрывае маштабы працы Леанарда ў 9 розных сферах: фізіка, механіка, грамадзянская і ваенная інжынерыя, гідраўліка, анатомія, авіяцыя, мастацтва эпохі Адраджэння, навуковыя даследаванні. Па-другое, распавядае гісторыю галоўных твораў да Вінчы з дапамогай самых сучасных тэхналогій. Па-трэцяе, праводзіць паралель паміж работамі Леанарда і сучаснымі тэхналогіямі. І, нарэшце, больш як 60 мадэляў у натуральную велічыню тлумачаць тэорыю і задачы кожнай вынаходкі майстра.

З моманту стварэння выстаўкі ў 2006 годзе яе ўбачылі жыхары ЗША, Лацінскай Амерыкі, Паўднёвай Афрыкі, Японіі, Расіі, Заходняй Еўропы — мільёны па ўсім свеце.

Арганізатары — кампанія «Берын Арт Менеджмент» сумесна з Нацыянальным мастацкім музеем Рэспублікі Беларусь пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта пад патранатам Пасольства Італіі ў Рэспубліцы Беларусь.

Выстаўка «Вынаходніцтвы да Вінчы» працуе па 30 сакавіка.

**Таццяна ШЫМУК**

# Гарады ў паветры

**Мінск — найбуйнейшы горад Беларусі, насельніцтва якога складае амаль 2 мільёны чалавек, а тэрыторыя — больш як 340 квадратных кіламетраў. Праблемы ўрбанізацыі, пошук арыгінальных будаўнічых рашэнняў, захаванне архітэктуры старога горада і стварэнне новых аб'ектаў — гэтыя пытанні яднаюць Мінск з іншымі сталіцамі свету.**


Фота Кастуся Дробава

Арат Ісадзакі «Гарады ў паветры».

Адной з краін, якая актыўна занялася вырашэннем праблем урбанізацыі ў XX стагоддзі, стала Японія. Японскі фонд прэзентаваў у Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага міжнародную перасоўную выстаўку «Гарады на мяжы выжывання: японскія ўрбаністычныя праекты 1960-х гг.», аўтар якой — вядомы архітэктар і дызайнер Наахіка Хіна.

Мінск стаў дваццаць трэцім горадам свету, дзе экспануецца дадзеная выстаўка. Упершыню яе прэзентацыя адбылася ў 2010 годзе ў Шанхаі (Кітай). За пяць гадоў працы экспазіцыя пабывала ў гарадах ЗША, Канады, Францыі, Славакіі, Славеніі, Грэцыі, Італіі, Македоніі, Харватыі. У Беларусь выстаўка прыехала з нямецкага горада Хале, затым адправіцца ў Гомель, пасля чаго будзе прэзентавацца ў краінах Афрыкі.

У экспазіцыі прадстаўлены эксперыментальныя архітэктурныя праекты, якія з'явіліся ў Японіі ў 1960-х гадах падчас росквіту ідэй урбанізму: «План для Токіа — 1960» Кэндзо Тангэ, чарцяжы архітэктараў-метабалістаў, «Гарады ў паветры» Арата Ісадзакі. Дэманструюцца архітэктурныя мадэлі-макеты, фатаграфіі, відэа, анімацыя, аўдыявізуальныя сродкі. Усё гэта — ідэі вырашэння праблем забруджвання навакольнага асяроддзя, аўтамабільных пробак, недахопу жылых плошчаў і г. д.

Галоўная мэта — прадэманстраваць, якім чынам развівалася новая канцэпцыя горада, а таксама як раннія ўрбаністычныя ідэі ўвасобіліся ў архітэктуры горада сучаснага.

Кожны наведвальнік выстаўкі стане яе непасрэдным удзельнікам і стваральнікам дзякуючы інтэрактыўнай карце Мінска, якая прадставіць унікальнасць і непаўторнасць роднага горада: вы зможаце пазначыць уласны дом, любімае месца, а таксама тое, што вам хацелася б змяніць.

Акрамя таго, у Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага адкрылася персанальная фотавыстаўка Янака Коўзеля «Дакрананне».

Ва ўяўленні чалавека, выхаванага на заходняй культуры, Японія — суцэльная экзотыка. А як жа? Самураі, гейшы, сумаісты, квітнеючая сакура і свята любавання першым снегам… Здаецца, прырода наўмысна стварыла гэтыя выспы як нейкі маленькі сусвет, адасоблены і незалежны…

Японія — вельмі фатаграфічная краіна (самыя папулярныя брэнды Nicon і Canon створаны менавіта яе таленавітымі інжынерамі). Янак Коўзель не пайшоў простым шляхам travel-фота, ён імкнуўся паказаць жыццё людзей у гарадскім асяроддзі, заўважаючы незвычайныя моманты і аб'екты.

Абедзве выстаўкі будуць доўжыцца да 29 сакавіка.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**
**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
info@zvyazda.minsk.by
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
lim_new@mail.ru
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар —284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73

Адрас у інтэрнэце: www.lim.by
Нашы індэксы:
індывідуальны — 63856
ведамасны — 638562
льготны для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі — 63880
індывідуальны льготны для настаўнікаў — 63815

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

**Друкарня Адкрытага акцыянернага таварыства «Чырвоная зорка»**
02330/99 ад 30.04.2004 (падоўжана 14.04.2014 г. тэрмінам на пяць гадоў па 30.04.2019.)
г. Мінск, 1-ы Загарадны зав., 3
Індэкс 220073

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2263
Заказ — 1461 г.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 5.03.2015 у 11.00
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі ад 22.07.2009 № 7 (перарэгістравана 10.12.2012) выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686